● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

17 красавіка 1996 г. серада, № 101 (22904)





# ЗВЯЗДА

## ПРЭЗІДЭНТ ПААБЯЦАЎ ПАДТРЫМКУ МІЖНАРОДНАМУ ЧЫРВОНАМУ КРЫЖУ

**Праблемам, звязаным з ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай аварыі, была прысвечана праведзеная 16 красавіка сустрэча Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з групай прадстаўнікоў Міжнароднай федэрацыі таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца на чале з яе генеральным сакратаром Джорджам Вэберам.**

Адкрываючы сустрэчу, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што прымае гасцей не толькі ў якасці кіраўніка беларускай дзяржавы, але і Старшыні Вышэйшага савета Супольніцтва Беларусі і Расіі. Ён падзякаваў пану Вэберу і яго калегам за ўвагу да Беларусі і вялікую дапамогу яе народу, запэўніў, што ў рэспубліцы і ва ўсім Супольніцтве федэрацыя заўсёды можа разлічваць на падтрымку сваіх гуманітарных праектаў. Адказваючы на пытанне аб мэце візіту ў нашу рэспубліку,

Джордж Вэбер падкрэсліў, што ён звязаны, па-першае, з адкрыццём у Мінску прадстаўніцтва федэрацыі, па-другое, з сумеснымі чарнобыльскімі праектамі Міжнароднай федэрацыі і Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжа і, нарэшце, — з неабходнасцю каардынацыі праграм Беларусі, Украіны і Расіі па ліквідацыі вынікаў аварыі ў Чарнобылі. Характарызуючы беларускую чарнобыльскую праграму, пан Вэбер адзначыў, што з пункту гледжання кіраўніка міжнароднай гуманітарнай арганізацыі, яна складзена на даволі высокім узроўні. Ён спадзяецца, што тыдзень, які застаўся да дзесятай гадавіны з дня аварыі, дасць новы штуршок супрацоўніцтву дзяржаў па мінімізацыі вынікаў катастрофы.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БЕЛТА.**

## ЗДАЕЦЦА, ПАЧЫНАЕМ РАСЦІ

**Упершыню за некалькі гадоў у прамысловай вытворчасці рэспублікі намеціўся рост.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу, у сакавіку ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года аб'ём прадукцыі ў супастаўных цэнах павялічыўся на 4,5 працэнта. Тавараў народнага спажывання ў першым квартале выраблена на 13.372,6 мільярда рублёў, што складае 86,1 працэнта да аналагічнага перыяду мінулага года. За апошні месяц квартала гэты паказчык дасягнуў ужо 91,4 працэнта.

Амаль на аднолькавым узроўні застаецца вытворчасць харчовых і нехарчовых тавараў. У працэнтных адносінах да сакавіка мінулага года яны адпаведна склалі 93,2 і 93,6 працэнта. І толькі вытворчасць алкагольных напояў знізілася ў параўнанні з першым кварталам мінулага года на 25 працэнтаў.

**Віктар САХАНКОЎ, БЕЛТА.**



## ФОТАСЛОВА

### ЯЎГЕН ПЯСЕЦКІ

«Нельга верыць у Бога,
Калі ён такое дазволіў.
Цяжка верыць у люд свой,
Калі ён такое сцярпеў»

**У. Караткевіч**

Зноў вяртаюцца птушкі
Па адвечных сваіх пуцявінах,
Зноў знаёмыя вёскі
Пад белым крылом жураўля,
Зноў усё тыя ж азёры —
Ды толькі не тыя разлівы.
Зноў ўсё тыя ж узлескі
Ды толькі не тая зямля.
Не адтае ніяк
Яна пасля лютых завеяў,
Птах не ладзіць гнязда
На халоднай, нячулай зямлі.
Трэба верыць у сонца
Каб сагрэцца адною надзеяй,
Трэба верыць Айчыне
Каб здалёку вярнуцца сюды.
І яшчэ трэба ўчуць
Той напеў, што плыве ў паднябессі,
Ён на вечныя словы:
Свабода, Надзея, Вясна.
Толькі сэрцу вядома,
Калі загучыць тая песня,
Толькі Богу вядома,
Калі абарвецца яна.



## СЯЎБА ПАЧАЛАСЯ: ПЕРШЫЯ КРОКІ

**Ледзь на палях сышоў снег, як гаспадаркі пачалі веснавую сяўбу. Зразумела, пакуль гэта датычыцца толькі паўднёвай часткі краіны, ды і то выбарачна.**

Як паведамілі ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, да севу яравых збожжавых прыступілі ў гаспадарках Брагінскага, Іванаўскага, Маларыцкага, Веткаўскага і Светлагорскага раёнаў. Усяго, паводле апошніх даных, засеяна 700 гектараў. Адначасова з сяўбой вядзецца падрыхтоўка глебы — у гаспадарках ужо апрацавана 6,5 тысячы гектараў.

Па словах спецыялістаў, работы вядуцца вельмі асцярожна — толькі там, дзе сышла вада. З іншага боку, марудзіць таксама не след: як чакаецца, вясна будзе надзвычай кароткай, таму трэба скарыстоўваць кожную магчымасць для правядзення неабходных работ.

Паралельна ў гаспадарках працягваецца вываз на палі арганічных угнаенняў, падсяванне шматгадовых траў, падрыхтоўка да пасадкі бульбы і іншыя работы.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ДЗЕЯЧЫ КУЛЬТУРЫ ГАТОВЫ ДА АДКРЫТАГА ДЫЯЛОГУ З ПАРЛАМЕНТАМ

**«Будаваць дэмакратычнае грамадства без дапамогі нацыянальнай эліты нельга», — заявіў Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі на сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй.**

Кіраўнік беларускага парламента заклікаў прысутных выказаць свае прапановы аб удасканаленні заканадаўства ў сферы культуры. «У параўнанні з іншымі краінамі СНД у частцы заканатворчасці мы пайшлі далёка наперад, але вельмі адсталі ў практыцы выканання законаў», — адзначыў старшыня Савета па культурнаму супрацоўніцтву краін СНД Уладзімір Гілеп. А міністр культуры рэспублікі Аляксандр Сасноўскі нагадаў, што дзяржава завінавацілася сферы культуры на сённяшні дзень 57,5 мільярда рублёў. І гэта толькі пагаршае яе крызіснае становішча. Дзеячы культуры выказалі гатоўнасць шукаць разам з Вярхоўным Саветам выйсце з крызіснага становішча. «Мы хочам правесці парламенцкія чытанні па праблемах культуры, дзе выслухаем усе вашы прапановы. Але не збіраемся абмяжоўваць гэтым нашы кантакты. Дарога ў Вярхоўны Савет для вас заўсёды адкрыта», — падкрэсліў С. Шарэцкі.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**






*НА СВАЕ ВОЧЫ*

## ПАВОДКА НА ПАЛЕССІ, або Чатыры дні ў зоне стыхіі

**Столінскі раён быў выбраны пунктам гэтай камандзіроўкі не выпадкова. Па прагнозах міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў ад аварыі на ЧАЭС найбольш моцны ўдар стыхіі чакаўся менавіта тут. Яшчэ ў пачатку сакавіка спецыялістамі было заяўлена, што ў зоне магчымага падтаплення знаходзіцца большая частка населеных пунктаў раёна — каля трыццаці. І нічога дзіўнага ў гэтым няма: Століншчына — край, дзе працякае пяць буйных рэк (Прыпяць, Гарынь, Стыр, Сцвіга і Маства) і безліч малых рэчак (Вятліца, Чаква, Мышанка ды іншыя).**

І самае галоўнае, што плошча вадазбору часткі гэтых водных артэрый знаходзіцца на тэрыторыі Украіны, некаторыя рэкі бяруць пачатак ля падножжа Карпат, штогод прыносячы на Беларусь мільёны кубаметраў вады з гор, лугоў, лясоў, палёў суседняй краіны. Сёлета менавіта карпацкая вада стварыла найбольшую небяспеку на поўдні Беларусі. Яна прыйшла, калі мясцовую даўно ўжо ўвабрала зямля.

Папярэдне патэлефанаваўшы ў Столін і пераканаўшыся, што транспартныя шляхі пакуль дзейнічаюць, 12 красавіка я ўзяў накірунак на поўдзень краіны. Маршрут пралягаў часткова па трох абласцях: Мінскай, Гомельскай і Брэсцкай. На Міншчыне вясна толькі-толькі брала верх над яшчэ моцнай зімой: палі па-ранейшаму былі пад снегам, і толькі дзе-нідзе вада пачала збягаць у нізіны, утвараючы цэлыя азёры сярод палёў. Ва ўмовах, калі сонца яшчэ не паспела адагрэць зямлю і вадзе няма куды дзецца, такія з'явы вельмі небяспечныя, у прыватнасці для азіміны. Але падобнае толькі зараз выклікае хваляванні. Раней жа, калі былі сапраўдныя зімы, такая карціна была звыклай, і ніхто асабліва з-за гэтага не бедаваў.

Падобныя зімнія настроі змяніліся веснавымі адразу за Салігорскам. На поўдзень ад горада снег — ужо вялікая рэдкасць. Ён застаўся хіба што ў непралазным лясным гушчары, куды і сонца не адразу трапіць. Над палямі — на ўсю моц заліваюцца жаваранкі.

Такім чынам, чым бліжэй я быў да канцавога пункта сваёй паездкі, тым больш станавіўся спакайнейшым. «Ну вось, — думалася, — усе так баяліся паводкі, а яе на самай справе і няма. Дзякуй, на гэты раз Бог злітаваўся над палескім краем». А калі вачам адкрылася «беларуская Амазонка» — Прыпяць, якая, нават не выйшаўшы з берагоў, спакойна і павольна каціла брудныя талыя воды, сярод якіх не было відаць ніводнай крыгі (на славу папрацавалі падрыўнікі), дык наогул успомніў вядомую народную мудрасць: з вялікай хмары малы дождж.

(Заканчэнне на 6-й стар.)

## ВЯЛІКДЗЕНЬ ДАРУЕ ЛЮДЗЯМ ЛЮБОЎ, НАДЗЕЮ, РАДАСЦЬ



Радавацца ўваскрэсламу Збавіцелю на працягу ўсяго гэтага тыдня, названага ў Праваслаўі Светлым, заклікаў вернікаў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт на святочнай вячэрняй службе, якую ён адправіў у мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы 14 красавіка. На працягу сямі дзён праваслаўныя людзі ў малітвах славяць Хрыста. Па даўняму звычаю ў гэты час царква дзеліцца радасцю свята з кожным, хто ўваходзіць у храм.

«Я ўдзячны айцам Царквы за падтрымку майго імкнення да славянскага яднання», — сказаў прысутны на набажэнстве Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. Ён запэўніў прыхаджан, што збліжэнне з Расіяй не адаб'ецца на суверэнітэце рэспублікі. А апасенні наконт таго, што беларускія хлопцы будуць служыць у расійскай арміі, не маюць падстаў. Кіраўнік дзяржавы зноў падкрэсліў, што салдаты Айчыны будуць і надалей абараняць толькі рубяжы сваёй радзімы.

Разам з Аляксандрам Лукашэнкам Свята-Духаў кафедральны сабор у мінулую нядзелю наведалі прэм'ер-міністр рэспублікі Міхаіл Чыгір, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі, міністры, дэпутаты, прадстаўнікі грамадскасці краіны.

**БЕЛТА.**

## НОВЫЯ ЎКАЗЫ, РАСПАРАДЖЭННІ ПРЭЗІДЭНТА

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выдаў Указ аб узнагароджанні артысткі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Захарэвіч Марыі Георгіеўны медалём Францыска Скарыны. Гэтай узнагароды яна ўдастоена за вялікі асабісты ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва, актыўную грамадскую дзейнасць.

❑

Прэзідэнт распарадзіўся стварыць камісію для падрыхтоўкі прапаноў аб кампенсацыі насельніцтву ўрону ад абясцэньвання грашовых зберажэнняў, змешчаных ва ўклады ў Ашчадным банку, і каштоўных папер былога СССР. Кіраўніком камісіі назначана старшыня праўлення Акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк» Ермакова Надзея Андрэеўна. Гэта камісія павінна ў месячны тэрмін падаць у Кабінет Міністраў праект адпаведнага рашэння.

**БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**№ 149**

**Аб паніжэнні ў спецыяльным званні былога міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Захаранкі Ю. М. за грубае фінансавае парушэнне і хібы ў рабоце**

Праверкай, праведзенай у адпаведнасці з даручэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 18 верасня 1995 г., устаноўлена, што былы міністр унутраных спраў Рэспублікі Беларусь генерал-маёр унутранай службы Захаранка Ю. М. пры ажыццяўленні пазапланавага капітальнага рамонту і пераабсталявання філіяла гасцініцы Міністэрства ўнутраных спраў (пас. Ждановічы) дапусціў грубае фінансавае парушэнне, якое праявілася ў нямэтавым выкарыстанні бюджэтных сродкаў у памеры 8,9 млрд. рублёў, а таксама не прымаў дзейсных мераў па барацьбе са злачыннасцю ў рэспубліцы. У сувязі з гэтым **пастанаўляю:**

1. За грубае фінансавае парушэнне, сур'ёзныя хібы ў забеспячэнні правапарадку на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь панізіць генерал-маёра ўнутранай службы Захаранку Юрыя Мікалаевіча ў спецыяльным званні да палкоўніка міліцыі (падпункт 9 пункта 14 Дысцыплінарнага статута органаў унутраных спраў Рэспублікі Беларусь).

2. Міністру ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь звольніць палкоўніка міліцыі Захаранку Ю. М. з органаў унутраных спраў у запас па выслузе гадоў, якая дае права на пенсіённае забеспячэнне (пункт 53.1.5 Палажэння аб праходжанні службы асабовым саставам органаў унутраных спраў Рэспублікі Беларусь).

3. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

16 красавіка 1996 г., г. Мінск.

ЗАЦВЕРДЖАНЫ Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 12 красавіка 1996 г. № 141

## САСТАЎ ПРАВАВОГА КАНСУЛЬТАТЫЎНАГА САВЕТА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Абрамовіч** Аляксандр Міхайлавіч — намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, доктар юрыдычных навук, прафесар (старшыня савета)

**Сукала** Валянцін Алегавіч — міністр юстыцыі (намеснік старшыні савета)

**Басецкі** Іван Ігнатавіч— намеснік начальніка Акадэміі МУС Рэспублікі Беларусь, доктар юрыдычных навук, прафесар

**Бойка** Уладзімір Васільевіч — старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда

**Гадуноў** Валерый Мікалаевіч — дэкан юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, кандыдат юрыдычных навук, дацэнт

**Галаўко** Анатоль Аляксандравіч — прафесар юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктар юрыдычных навук

**Драбязка** Сцяпан Рыгоравіч — прафесар юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктар юрыдычных навук

**Капітан** Васіль Сцяпанавіч — Генеральны пракурор

**Каравай** Уладзімір Сяргеевіч — старшыня Вярхоўнага суда

**Круталевіч** Вадзім Андрэевіч — вядучы спецыяліст Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук Беларусі, доктар юрыдычных навук, прафесар Малумаў Юрый Георгіевіч — намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (з яго згоды)

**Матусевіч** Антон Уладзіміравіч — дырэктар Інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, доктар юрыдычных навук

**Проніна** Марыя Георгіеўна — прафесар кафедры правазнаўства Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, доктар юрыдычных навук

**Семянкоў** Віктар Іванавіч — намеснік дырэктара Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук Беларусі, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, доктар юрыдычных навук, прафесар

**Сторажаў** Мікалай Васільевіч — загадчык аддзела Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук Беларусі, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, доктар юрыдычных навук, прафесар

**Цікавенка** Анатоль Герасімавіч — загадчык лабараторыі Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, доктар юрыдычных навук

**Чыгір** Васіль Фёдаравіч — прафесар юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктар юрыдычных навук

**Шабайлаў** Віктар Іванавіч — дырэктар Навукова-даследчага інстытута праблем дзяржаўнай кадравай палітыкі і ўдасканалення дзяржаўнага кіравання Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, доктар юрыдычных навук, прафесар

**Юркевіч** Мікалай Рыгоравіч — прафесар юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктар юрыдычных навук.

## ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 238

## АБ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ПРАГРАМЕ «МОЛАДЗЬ БЕЛАРУСІ»

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Адобрыць падрыхтаваную Камітэтам па справах моладзі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспубліканскую праграму «Моладзь Беларусі» на 1996—1999 гады.

2. Міністэрству адукацыі і навукі ў тыднёвы тэрмін зацвердзіць і давесці да міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання, аблвыканкомаў і Мінскага гарвыканкома Рэспубліканскую праграму «Моладзь Беларусі».

3. Камітэту па справах моладзі Міністэрства адукацыі і навукі з удзелам зацікаўленых міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання забяспечыць выкананне Рэспубліканскай праграмы «Моладзь Беларусі».

Мясцовым выканаўчым і распарадчым органам распрацаваць і ажыццявіць комплекс мераў па рэалізацыі ўказанай праграмы, распрацоўцы і прыняццю рэгіянальных маладзёжных комплексных і мэтавых праграм, вызначыць парадак іх фінансавання.

4. Міністэрству фінансаў у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб агульных пачатках дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь» забяспечыць фінансаванне рэспубліканскай праграмы «Моладзь Беларусі» на 1996 год у памеры 2 млрд. рублёў і ў далейшым выдзяляць ва ўстаноўленым парадку з рэспубліканскага бюджэту сродкі на рэалізацыю мерапрыемстваў гэтай праграмы.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М. ЧЫГІР.**

4 красавіка 1996 г., г. Мінск.

## БЕЛАРУСЬ — КРАЙ ЗВЯРОЎ І... БРАКАНЬЕРАЎ

**Беларусь здаўна лічылася краем лясоў, якія давалі прытулак мноству відаў звяроў і птушак. Зразумела, за апошнія дзесяцігоддзі шмат што змянілася (і далёка не ў лепшы бок), але і зараз краіна можа па праву ганарыцца сваёй фаунай, як, дарэчы, і мерамі па яе захаванню.**

Так, па звестках Міністэрства лясной гаспадаркі, у мінулым годзе на тэрыторыі Беларусі было зарэгістравана 13.928 ласёў, 5879 аленяў, 25.973 кабаны, 34.199 казуль, 349 зуброў. У лясах вадзілася прыкладна 122 тысячы вавёрак, амаль 240 тысяч зайцоў. Колькасць такіх рэдкіх пушных звяроў, як куніца і бабёр, складала адпаведна каля 15 і 20 тысяч асобін.

Не менш рэдкая папуляцыя барсука і выдры таксама была «прадстаўлена» ў айчыннай фауне: у цэлым па краіне іх налічвалася адпаведна амаль паўтары і больш як дзве тысячы жывёл. Толькі рэдкі чалавек (нават не паляўнічы, бо на некаторыя віды звяроў паляванне ў мінулым годзе не дазвалялася) мог бачыць у лесе бурага мядзведзя (101 асобіна на ўсю краіну), рысь (215). На шчасце, не звяліся ў нашых лясах цецерукі, курапаткі, качкі, шэраг іншых відаў звяроў і птушак.

Зразумела, уся гэтая «гаспадарка» патрабуе аховы і рацыянальнага рэгулявання яе колькасці. Па стану на 1995 год у Беларусі было 289 паляўнічых гаспадарак з агульнай плошчай паляўнічых угоддзяў 18.291 тысяча гектараў. Колькасць здабытых (адстраляных) жывёл рознілася ў залежнасці ад шэрага акалічнасцей. Напрыклад, з 3 тысяч ваўкоў у мінулым годзе паляўнічымі было адстраляна 1185.

На жаль, па-ранейшаму нярэдкія ў беларускіх лясах выпадкі браканьерства. Толькі за 1995 год такіх парушальнікаў было выяўлена 2400 чалавек. Да адміністрацыйнай адказнасці было прыцягнута 1982 з іх, да крымінальнай — 100. Сума спагнаных штрафаў склала 195,8 млн. рублёў. На жаль, ні грошы, ні чыесьці запозненыя слёзы не могуць часта вярнуць тое, што дорыць нам прырода — хараство і непаўторнасць кожнай жывой істоты...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## БЕЛАРУСЬ — ГЕРМАНІЯ: РЭЗЕРВЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА БЯЗМЕЖНЫЯ

**Інтэрв'ю кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіла Мясніковіча карэспандэнту БЕЛТА**

**— Міхаіл Уладзіміравіч, як вядома, з 22 па 27 красавіка Беларусь упершыню прадэманструе свае дасягненні на буйнейшым у свеце Гановерскім кірмашы. Але там, у Германіі, не толькі будзе разгорнута вялікая экспазіцыя айчыннай прадукцыі. У рамках міжнароднага форуму адбудзецца Дзень беларуска-германскай эканомікі, пройдзе чацвёртае пасяджэнне Германа-беларускага савета эканамічнага супрацоўніцтва. У сувязі з маючай адбыцца падзеяй раскажыце, калі ласка, аб месцы Германіі ў знешнеэканамічных сувязях рэспублікі.**

— Перш за ўсё адзначу, што правядзенне Прэзідэнтам і ўрадам актыўнай знешнегандлёвай палітыкі пэўным чынам адбілася на выніках знешняга гандлю. Цяпер Беларусь падтрымлівае гандлёва-эканамічныя адносіны больш чым са 120 краінамі свету і толькі з 32 з іх, паводле вынікаў 1995 года, мае адмоўны гандлёвы баланс.

Як кажуць, усё пазнаецца ў параўнанні. Напрыклад, у мінулым годзе, адносна даных папярэдняга, знешнегандлёвы абарот рэспублікі павялічыўся амаль на 4 мільярды долараў ЗША і склаў 9,2 мільярда. Трэба адзначыць, што дзякуючы росту амаль у чатыры разы актыўнага балансу гандлю з дзяржавамі далёкага замежжа ў параўнанні з 1994 годам адбылося паляпшэнне знешнегандлёвага балансу рэспублікі: дэфіцыт скараціўся на 124 мільёны амерыканскіх долараў, або на 22,3 працэнта.

У нашым экспарце тавараў пераважаюць пастаўкі машын, абсталявання і прыбораў, нафтапрадуктаў, мінеральных угнаенняў, хімічных валокнаў і нітак, грузавых аўтамабіляў, пластмас і гумавых вырабаў, тэкстылю і тэкстыльных вырабаў, трактароў і г.д.

У структуры імпарту прыярытэт застаўся за энергарэсурсамі, машынамі і абсталяваннем, хімічнай прадукцыяй.

Гістарычна склалася так, што нашым важнейшым эканамічным і гандлёвым партнёрам з'яўляецца Расія. Другое ж месца тут упэўнена трымае Германія, на долю якой у знешнегандлёвым абароце Беларусі прыпадае 7,6 працэнта. Але ён пастаянна расце і дасягнуў ужо ў 1995 годзе 692 мільёнаў долараў ЗША, пры гэтым экспарт склаў больш як 280 мільёнаў, імпарт — 412 мільёнаў долараў. Тут варта таксама адзначыць, што сярод усіх краін далёкага замежжа з Германіяй мы маем найбольшае адмоўнае сальда. І нам трэба будзе шукаць шляхі для збалансавання гандлёвых патокаў.

Цяпер 43 працэнты экспарту ў Германію — гэта прадукцыя хімічнай прамысловасці, 31 працэнт — тэкстыльнай, па 8 працэнтаў — мінеральная сыравіна, паліва і тавары народнага спажывання. Аснову імпарту з Германіі складаюць машыны, абсталяванне і транспартныя сродкі (каля 50 працэнтаў).

У рэспубліцы зарэгістравана ўжо каля трохсот сумесных беларуска-германскіх прадпрыемстваў і звыш ста прадпрыемстваў са 100-працэнтным германскім капіталам. Нямецкія інвестары займаюць другое месца па колькасці створаных прадпрыемстваў са 100-працэнтным капіталам, уступаючы ў гэтым толькі Польшчы, а па аб'ёму тавараабароту — другое месца сярод краін Еўрапейскага саюза пасля Нідэрландаў.

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь адкрылі свае прадстаўніцтвы больш за паўсотні германскіх фірмаў. Сярод іх сусветна вядомыя «Басф АГ», «Баер АГ», «Гермед», «Сіменс» і іншыя.

**— Вядома, факты ўражваюць. А ці не азначае гэта, што рэзервы супрацоўніцтва з Германіяй сябе вычэрпваюць?**

— Вядома, не. Спынюся толькі на адным аспекце іх далейшага развіцця.

Важнейшая задача ў наладжванні супрацоўніцтва з германскай прамысловасцю — устанаўленне і расшырэнне існуючых кантактаў паміж грамадскімі арганізацыямі дзвюх краін, у прыватнасці з Федэральным саюзам германскай прамысловасці са штаб-кватэрай у Кёльне (менавіта тут выпрацоўваецца стратэгія міжнародных кантактаў Германіі ў галіне вытворчасці). Такія сувязі з'яўляюцца адным са шляхоў далейшага развіцця знешняга гандлю паміж нашымі дзяржавамі. Большую ролю ў нашых адносінах маглі б адыгрываць і галіновыя саюзы, якія прадстаўляюць інтарэсы больш як 60 тысяч буйных і сярэдніх нямецкіх прадпрыемстваў, а таксама нашы прадпрымальніцкія аб'яднанні і галіновыя асацыяцыі. З улікам таго, што аснову нямецкай эканомікі складаюць малыя і сярэднія прадпрыемствы, аб'яднаныя ў тэрытарыяльныя гандлёва-прамысловыя і рамесныя палаты, неабходна далейшае развіццё адносінаў паміж імі.

Нядаўна ў Мінску адбыліся сустрэчы з прадстаўнікамі Міністэрства эканомікі і Федэральнага бюро экспарту Германіі па пытаннях супрацоўніцтва ў галіне экспартнага кантролю. На думку беларускага і германскага бакоў, працяг і расшырэнне кантактаў у гэтай галіне з'яўляецца новым і вельмі перспектыўным напрамкам супрацоўніцтва паміж адпаведнымі ведамствамі дзвюх краін.

**— Калі я правільна зразумеў, неабходна дыверсіфікацыя ў самім супрацоўніцтве?**

— Вядома, у гэтым сэнсе хацелася б выдзеліць рэгіянальны аспект. Цяпер даволі цесныя кантакты ўстаноўлены паміж рэспублікай і некаторымі федэральнымі землямі, як, напрыклад, Паўночны Рэйн-Вестфалія, Шлезвіг-Гольштэйн, Ніжняя Саксонія. У Мінску ўжо дзейнічае Кантактнае бюро зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. Створаны перадумовы для адкрыцця Бюро беларускай эканомікі ў Баварыі, Ніжняй Саксоніі, Гамбургу. Вядзецца работа па абмену ў гэтым годзе ўрадавымі дэлегацыямі Рэспублікі Беларусь і шэрага федэральных зямель Германіі для падпісання пагадненняў аб эканамічным супрацоўніцтве. У Мінску адкрыта прадстаўніцтва Лейпцыгскай гандлёва-прамысловай палаты.

У той жа час неабходна больш актыўна развіваць кантакты на міжрэгіянальным узроўні. Прыкладам такіх адносінаў можа служыць Пагадненне аб партнёрскіх сувязях паміж Ашмянскім раёнам Гродзенскай вобласці і абшчынай Эпельхайм зямлі Бадэн-Вюртэмберг. Вядуцца перагаворы паміж Петрыкаўскім раёнам Гомельскай вобласці і Нясвіжскім раёнам Мінскай вобласці з абшчынамі нямецкіх федэральных зямель аб устанаўленні аналагічных адносінаў. Было б мэтазгодна наладзіць супрацоўніцтва паміж землямі Германіі і абласцямі Беларусі.

**— Міхаіл Уладзіміравіч, у нашай рэспубліцы даволі магутны навукова-тэхнічны патэнцыял. Якая ж перспектыва супрацоўніцтва ў гэтым напрамку?**

— Германія, як і мы, праяўляе вялікую зацікаўленасць у развіцці такіх кантактаў. І нашы вучоныя маглі б атрымаць доступ да ўдзелу, бадай, у галоўнай праграме навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва еўрапейскіх краін — ЭЎРЫКА. Больш цесныя дзелавыя сувязі трэба было б устанавіць паміж нашай Акадэміяй навук і Федэральным міністэрствам адукацыі, навукі, навуковых даследаванняў і тэхналогіі.

Яшчэ адным інструментам рэалізацыі такога супрацоўніцтва можна лічыць нашы прадстаўніцтвы ў Германіі ў выглядзе гандлёвых дамоў, бюро і г. д. У кастрычніку 1994 года створаны Германа-беларускі дом садзейнічання эканоміцы, тэхналогіям, інвестыцыям і навуцы ў горадзе Карлсруэ. Праект Германа-беларускага дома з'яўляецца ў нейкай меры пілотным у стварэнні Бюро эканомікі ў федэральных землях Германіі. Цяпер вядзецца работа па адкрыццю Кантактнага бюро эканомікі Рэспублікі Беларусь у Дзюсельдорфе. Ёсць задума «прапісаць» такія структуры ў Боне, Штутгарце і Мюнхене.

**Міхаіл ЖУРАВОВІЧ, БЕЛТА.**

# КІРМАШ



ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 15 (34)



| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТРАНСПОРТ** | | | |
| Двигатели к а/м ГАЗ24, ГАЗ53, М412, М2141 (1,7 л) и др. запчасти | | СФ «Орион» | (0222) 25-00-00 |
| **ДЛЯ ФЕРМЕРА И ДАЧНИКА** | | | |
| Кормозапарники, зернодробилки и др. с/х оборудование | Договорная | Организация | (0172)25-85-62 |
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет (АВИА, Боинг) отель 4-5 звездочек (8—15 дней) | от 505$ | ТехноСтар | (0172) 39-47-14 |

## «БАРУМБЕЛШЫНА» НЕ ДЛЯ НАС

На магутнасцях Бабруйскага шыннага завода плануецца пачаць вытворчасць прадукцыі чэшскай фірмы «Барум Кантыненталь».

«Белшына» вырабіла для партнёраў дзве партыі шын, якія прайшлі выпрабаванні. І чэшскі, і беларускі бок амаль задаволены якасцю прадукцыі. Пасля карэкціроўкі, дапрацоўкі шын завод пачне іх серыйную вытворчасць. На пытанне аб тэрмінах пачатку вытворчасці генеральны дырэктар завода «Белшына» Аркадзь Палякоў адказаў няпэўна: як толькі атрымаем жаданую якасць — дык адразу. Дырэктар аднайменнай знешнегандлёвай фірмы Юрый Варанкоў выказаўся больш канкрэтна: праз 2-3 месяцы на заводзе мяркуюць пачаць серыйную вытворчасць хаця б аднаго тыпаразмеру шын. Ва ўсякім разе, старшыня кіраўніцтва фірмы «Барум Кантыненталь» Пётр Зітэк застаўся задаволены наведваннем завода: «Я ўбачыў тое, што чакаў убачыць». На працягу двух тыдняў плануецца падпісанне ліцэнзійнага дагавора на права карыстання беларусамі гандлёвым знакам чэшскай фірмы.

Шыны з маркай «Барум Кантыненталь» не прызначаны для беларускага рынку: чэхі будуць рэалізоўваць гэты тавар на сваіх традыцыйных рынках — у Заходняй Еўропе. Кошт гэтых шын ніжэйшы, чым аналагічных беларускіх. Але тлумачыцца ўсё проста: чэхі маюць магчымасць пастаўляць сыравіну, кошт якой куды меншы, чым сыравіны, завозімай у Беларусь з Расіі.

Шуміха, што ўзнялася ў беларускіх сродках масавай інфармацыі ў лютым бягучага года вакол канкурэнцыі, не мае пад сабой глебы. Паводле слоў Марціна Седлачэка дырэктара экспартнага аддзела «Барум Кантыненталь», фірма ніколі не збіралася выцясняць беларускіх вытворцаў з унутранага рынку. Яна проста вынесла сваю вытворчасць за межы краіны. «У нас няма ніякіх сур'ёзных праблем у супрацоўніцтве з беларускім бокам», — сказаў прадстаўнік фірмы. Спадар Седлачэк часткова праліў святло і на «цэнавае» пытанне. У прэсе называліся лічбы 280 і 180 долараў. Такі, быццам бы, кошт бабруйскіх і чэшскіх шын. Аднак спадар Седлачэк не змог назваць цану двухсотвасьмідзесяцідоларавага беларускага аналага: «Такіх шын мы проста не вырабляем». Цэны ж на чэшскую прадукцыю самыя розныя, бо выпрабляецца звыш 80 тыпаразмераў шын.

Што тычыцца папрокаў у бок беларускіх вытворцаў, то віны іх у высокім кошце прадукцыі няма: 80 працэнтаў кошту шыны складае кошт сыравіны. Асноўная яе частка завозіцца з Расіі, дзе з восьмага красавіка цэны на сінтэтычны каўчук узняліся яшчэ на 15 працэнтаў. Як адзначыў дырэктар «Белшыны», калі б пяць гадоў назад яму сказалі, што сінтэтычны каўчук будзе каштаваць у паўтара раза больш, чым натуральны, ён бы рассмяяўся.

Тым не менш, сёння гэта так, і кіраўніку не да смеху. Завод праводзіць мерапрыемствы па зніжэнню кошту прадукцыі. Напрыклад, шына задняга кола трактара «Беларусь» каштуе сёння 290 долараў супраць 360. Аднак пры павышэнні цэн на сыравіну і дваццаціпрацэнтным падатку на яго ўвоз вялікага зніжэння цаны чакаць не даводзіцца.

Таму беларусы паехалі ў В'етнам. Бабруйскі завод стварыў з в'етнамскай каўчукавай кампаніяй «Тхеньян» сумеснае прадпрыемства «Вібілатэкс». Па дамоўленасці кампанія павінна перадаць СП 8 тысяч гектараў плошчаў, засаджаных гевеяй — дрэвам, з якога атрымліваюць натуральны каўчук. Аднак справа затармазілася: в'етнамскі бок выканаў свае абавязацельствы толькі на 8 працэнтаў, у той час як Беларусь — на 91. Да гэтага часу ў распараджэнні СП знаходзіцца толькі 1 тысяча 727 гектараў плантацый. Партнёры тлумачаць сітуацыю становішчам у краіне: на плошчах, дзе павінна быць ажыццёўлена пасадка дрэў, самавольна пасяліліся людзі. Каб сагнаць сялян з месца, в'етнамскі бок патрабуе ад прадстаўнікоў Беларусі кампенсацыю ў памеры 250 тысяч долараў. Генеральны дырэктар завода «Белшына» лічыць, што гэта ўнутраныя справы краіны і вырашаць іх за кошт партнёраў неэтычна.

Зразумела, што так ці інакш пытанне вырашыцца, але разлічваць на даволі хуткае атрыманне таннай сыравіны не прыходзіцца: гевеі здольны даваць латэкс праз 6-7 гадоў, а нашым пасадкам яшчэ толькі 3.

Што ж тычыцца кантракта «Барум Кантыненталь» з МТЗ на пастаўку шын, вырабляемых у Турцыі, то такія ўмовы рынку. «Белшына», на жаль, не можа прапанаваць танны тавар, хаця забяспечыць попыт прадпрыемстваў рэспублікі і не толькі яе, мае магчымасць аж у 2 разы. Магутнасці завода калісьці працавалі на патрэбы Саюза, і калі сёння яны не загружаны на 100 працэнтаў, то толькі таму, што пакупнікам нечым плаціць.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*БЕЛАРУСЬ — БАЛГАРЫЯ*

## ПАТЭНЦЫЯЛ У МІЛЬЯРД ДОЛАРАЎ

**Магутны імпульс развіццю гандлёва-эканамічных адносінаў паміж дзвюма краінамі надаў нядаўні візіт у Балгарыю ўрадавай дэлегацыі на чале з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром. У ходзе яго, як вядома, быў падпісаны шэраг важных дакументаў: пяць міжурадавых і некалькі міжведамасных.**

Сярод іх асаблівае месца займае гандлёва-эканамічнае пагадненне, якое прыйшло на замену падпісанаму ў 1992 годзе аналагічнаму дакументу. Перагаворы ў Сафіі, сустрэчы там з прадстаўнікамі дзелавых колаў адбываліся на фоне росту ўзаемных эканамічных інтарэсаў. Бо пасля развалу СССР і СЭУ гандаль паміж намі ўпаў амаль да нуля. Потым пачаў патроху расці.

Таму вынікі візіту нашай дэлегацыі ў Сафію многімі сёння разглядаюцца як новы этап адносінаў Балгарыі і Беларусі ў духу рыначнай эканомікі. Сведчаннем таго стала стварэнне міжнароднага кансорцыума «Балкан-курс» пры Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі. Яна, дарэчы, прымала актыўны ўдзел у папярэдняй падрыхтоўцы візіту Міхаіла Чыгіра. Прадстаўнікі асацыяцыі напярэдадні прыезду афіцыйнай дэлегацыі старанна вывучылі перспектывы балгарскага рынку для беларускіх прадпрыемстваў. Заключэнне іх было станоўчым: з Балгарыяй нам трэба паглыбляць эканамічнае супрацоўніцтва.

Стварэнне кансорцыуму — канкрэтны крок на гэтым шляху. Па словах яго прэзідэнта Сяргея Суконава, кансорцыум аб'ядноўвае групу гаспадарчых самастойных і незалежных суб'ектаў. Сёння ў яго саставе каля 30 прадпрыемстваў розных формаў уласнасці, здольных працаваць у рыначных умовах. Кансорцыум дапамагае беларускім заводам і фабрыкам наладжваць страчаныя ў Балгарыі сувязі, завязваць дзелавыя кантакты з патэнцыяльнымі партнёрамі ў гэтай краіне.

У сваіх планах кансорцыум мяркуе не абмяжоўвацца толькі межамі Балгарыі. Яна можа стаць зручным плацдармам для прасоўвання беларускіх тавараў у рэспублікі былой Югаславіі, Грэцыю, Турцыю. Адсюль і назва — «Балкан-курс».

Поўны намераў і планаў Валерый Сакалоў, кіраўнік таксама нядаўна створанага беларуска-балгарскага гандлёвага дома. Ён лічыць, што ёсць усе падставы для дасягнення ўзроўню гандлёвага абароту часоў Савецкага Саюза. Тады ён, нагадаем, складаў 650 мільёнаў долараў і Балгарыя пасля Польшчы займала другое месца сярод гандлёвых партнёраў Беларусі. А летась нават пры яго двайным павелічэнні ў параўнанні з 1994 годам ён склаў усяго 40 мільёнаў долараў. Рэзервы, як кажуць ёсць. Але розніца ў 610 мільёнаў, пры жаданні абодвух бакоў, можа быць значна перакрыта, рэальна нават давесці гандлёвы абарот да мільярда долараў. Не такая ўжо гэта астранамічная лічба.

Аб імкненні балгар супрацоўнічаць з намі гаворыць і той факт, што ў Мінскім кірмашы, які адбыўся днямі, удзельнічалі каля 20 балгарскіх фірмаў. А нядаўна балгарская газета «Суперкомпас» (яна разлічана на вытворцаў, экспарцёраў і імпарцёраў і распаўсюджваецца ў Сербіі, Македоніі, іншых краінах) у якасці галоўнай публікацыі надрукавала вялікае інтэрв'ю з Аляксандрам Герасіменкам, паслом Беларусі ў Сафіі. У ім пасол праводзіць думку, што Беларусь можа стаць варотамі для балгарскіх тавараў на рынкі краін СНД, заклікае больш рашуча наладжваць эканамічныя сувязі на міжрэгіянальным узроўні.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### *ПРАДАЕЦЦА*

■ Двухпакаёвая кватэра на станцыі Пруды Маладзечанскага раёна (50/30 кв. м, кухня 9 кв. м, 5 паверх пяціпавярховага дома). *Тэл. у Маладзечне 29-2-94.*

■ Крылы, падкрылкі да аўтамабіля ВАЗ-2101, стартэр да «Волгі», лодка «Нырок-2». *Тэл. (0172) 37-73-30.*

■ Дом 6x12 (сад, агарод, побач рэчка, лес) у в. Хацяж Ляхавіцкага раёна, 1500$. *Тэл. у Баранавічах 5-79-83.*

■ Каляска інвалідная для выкарыстання ў кватэры, 80$. *Тэл. (0172) 2-34-43-02.*

■ Запчасткі да Форд-Скорпіо: КПП-аўтамат, рухавік 2,0, камп'ютэр АБС, дзверцы багажніка. *Тэл. (8-01591) 21-1-04.*

■ Опель-Кадэт 1984 г.в., бензін — 6 л на 100 км. 2200$. *Тэл. (8-217) 4-60-54.*

■ Прадаю 2-пакаёвую прыватызаваную кватэру з усімі выгодамі ў пасёлку Бярэзінскае Маладзечанскага раёна. *Тэл. у Радашковічах 9-58-64.*

■ Дом 9x12, Стаўбцоўскі раён, 80 км ад Мінска, ёсць тэлефон, участак 0,5 га, сад, агарод, гаспадарчыя пабудовы. *Тэл. (217) 34-6-53.*

■ Дом за 2 км ад станцыі Баяры, 40 кв.м, гараж, гаспадарчыя пабудовы. *Тэл. у Маладзечне 5-49-39.*

■ Дом з гаспадарчымі пабудовамі, калодзеж, лазня, сад, агарод, пасёлак Акцябрскі, Гомельская вобл. *Тэл. (0172) 32-85-40.*

■ Дача ў Маладзечанскім раёне, в. Схоліна, участак 0,2 га, сад. *Тэл. (273) 6-14-53*

■ Дранка, 2,5 м куб. (г. Слуцк). *Тэл. (8-295) 2-52-98.*

■ Дом з садам на беразе Нёмана, за 6 км ад г. Масты. *Тэл. (8-01515) 2-20-50.*

■ Пчальнік, 16 сем'яў, вуллі дадананаўскія (Буда-Кашалёў). Тэл. (8-02336) 37-3-17.

■ Калекцыя значкоў (звыш 800 шт.), *г. Мінск, тэл. (0172) 2-31-63-47.*

### *РОЗНАЕ*

■ Выканаю работу на даму. Мой адрас: *222334, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, в. Адамовічы, д. 36. Полаз М.В.*

■ Мяняю прыватызаваную 2-пакаёвую кватэру ў Мікашэвічах на кватэру ў г. Брэсце. *Тэл. у Брэсце 41-61-12, у Івацэвічах — 2-13-84 пасля 18.00.*

■ Мяняю прыватызаваную аднапакаёвую кватэру ў г. Хмяльніцкім на любы горад Беларусі. *Тэл. (8-02235) 37-5-40.*

■ Мяняю 2-пакаёвую кватэру (курорт Тыберда Стаўрапольскага края) на кватэру ў Мінску. *Тэл. (8-01771) 76-2-34.*

■ Куплю складны веласіпед на запчасткі. Нядорага. *Тэл. (0172) 2-44-27-40 пасля 16.00.*

■ Мяняю 3-пакаёвую кватэру на 1- і 2- пакаёвую, альбо дзве 2-пакаёвыя (г. Баранавічы), *тэл. 65-4-41.*

■ Куплю фотаапарат «Зеніт-Е», «Зеніт-В» у любым стане, можна зламаны. *Тэл. (8-272) 5-81-83 пасля 19.00.*

■ Аўтар песень прапануе маладым прафесіянальным выканаўцам супрацоўніцтва. *Тэл. (8-272) 5-81-83 пасля 19.00.*

■ Мяняю двухпакаёвую добраўпарадкаваную (лоджыя, тэлефон) кватэру ў Магілёве на кватэру ў Лідзе. *Тэл. у Магілёве (8-0222) 25-53-59.*

■ Куплю камплект часопісаў «Дело» за 1993—94 гг. 3000 руб. за нумар. *Ліда-21, Рабіноўскага, 34/24. У. Лобач.*

# КРАІНА ДЗЯЦІНСТВА



Тут жа — мора ўсмешак, сапраўдны феерверк радасці! Раз за разам чуюцца смех, радасныя галасы. На двары халаднавата, а ў плавальным басейне для малых, што ўтульна размясціўся пад дахам дзіцячага садка, сапраўднае лета. Малеча плюхаецца ў цёплай вадзе, пырскі ўзлятаюць пад самы дах. Усе задаволены. Трэнер па плаванню Жанна Сяргейка спрабуе як-кольвечы супакоіць шумнае сямейства. Ды толькі дзе там! Гэта з больш старэйшымі выхаванцамі, а таксама тымі, што ўжо вучацца ў першых класах (аказваецца, ёсць у дзіцячых садках Жлобінскага БМЗ такая пераходная паміж садком і школай форма работы з дзецьмі), праводзяцца заняткі па плаванню. А зусім яшчэ малеча проста бавіць тут час, прымае водныя працэдуры, што садзейнічае іх загартоўцы.

Прыпомнілася нядаўняя размова з генеральным дырэктарам БМЗ Юрыем Феакціставым. Як ні цяжка са сродкамі, разважае кіраўнік, але стараемся ні ў чым не пакрыўдзіць дзяцей. Хоць гэта і няпроста. Цяпер на балансе прадпрыемства восем дзіцячых садкоў, неўзабаве ўступяць у эксплуатацыю яшчэ два. Для дзяцей створаны найлепшыя ўмовы: у чатырох з васьмі будынкаў абсталяваны плавальныя басейны, працуюць розныя гурткі, групы загартоўкі здароўя. Робяцца неабходныя захады, каб і на сталах выхаванцаў былі смачныя стравы, садавіна, у тым ліку і заморская: бананы, апельсіны.

Умовамі выхавання дзяцей беларускіх металургаў у мясцовых садках захапляюцца не толькі шматлікія дэлегацыі з абласнога цэнтра і сталіцы, але і з-за мяжы.

Усе падкрэсліваюць тыя выключныя парадак і чысціню, што пануюць у спальных пакоях, месцах адпачынку, заняткаў маленькіх насельнікаў гэтай сапраўднай краіны дзяцінства. Адзначаюць і высокі прафесіяналізм у арганізацыі навучальна-выхаваўчай работы.

І хоць Жлобіншчына афіцыйна не аднесена да зоны радыяцыйнага забруджвання, злавесны цень Чарнобыля не абмінуў тутэйшыя мясціны. Дарэчы, па звестках медыкаў, і ў Жлобіне назіраецца пэўная паталогія сярод народжаных ужо пасля вядомай аварыі на атамнай станцыі. Улічваючы гэтыя і іншыя абставіны, у садках ёсць групы для дзяцей са слабым здароўем. Для іх прадугледжаны адпаведныя лекі, ды і займаюцца яны па спецыяльнай праграме.

Пакуль мы аглядалі басейн, знаёміліся з умовамі адпачынку дзяцей, у адным з пакояў пачуліся музычныя акорды. І тут жа вясёлыя галасы маленькіх спевакоў падхапілі мелодыю папулярнай дзіцячай песенькі. Як потым нам растлумачылі, юныя самадзейныя артысты рыхтуюцца да святочнага канцэрта.

Мы пабывалі яшчэ ў адным садку. І тут панаваў усё той жа святочны настрой. А быў жа звычайны будзённы дзень.

**Уладзімір ГОЙТАН.**





**Сёння ўсё радзей на дзіцячых тварах убачыш вясёлую ўсмешку. Часцей яны нейкія задуменныя, засяроджаныя, а нярэдка і засмучоныя. Застаецца толькі па-філасофску зазначыць: час цяпер такі, не да весялосці.**

***НА ЗДЫМКАХ:** начальнік аддзела дашкольных устаноў Аляксандра НАСАВІЦКАЯ і загадчыца садка Алена ЗЯЦІКАВА абмяркоўваюць планы метадычнай работы з выхаванцамі; хораша купацца ў цёплай вадзе; на музычных занятках; штодзённыя гульні на паветры таксама ўваходзяць у распарадак дня.*

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**







# «ДОЛАРЫ—МАРАЧКІ»: ШКОЛА ЖЫЦЦЯ

**Акружаючая нас рэчаіснасць мяняецца настолькі хутка, што паспяваеш толькі канстатаваць факты. З настальгіяй успамінаюцца цяпер часы, калі ў «хаду» былі пераважна 10- і 20-доларавыя купюры. А вось 50 і 100 долараў выклікалі ўжо лёгкае трымценне рук, бо гэта была велізарная сума.**

Сёння ж сітуацыя змянілася з дакладнасцю да наадварот. У кожным абменным пункце вам з радасцю прапануюць набыць 100 долараў. Дзіўна, але нават купюра вартасцю 50 долараў стала амаль няўлоўнай. Што ўжо тут гаварыць пра 10 і 20 долараў, якім, відаць, лёсам наканавана стаць музейнай рэдкасцю. Дзіўна, няўжо наш народ зажыў так добра, што перастаў разменьвацца на «дробязі»? А можа, урад ЗША вывеў з абарачэння купюры дробнай вартасці? Быццам бы не. У гэтым лёгка пераконваешся, уключаючы тэлевізар, з экрана якога нам штодзённа паведамляюць, што 100 долараў заўсёды былі і застануцца 100 доларамі, зрэшты, як і ўсе іншыя амерыканскія грашовыя знакі. У такой сітуацыі складваецца ўражанне, што калі дробных купюр у абарачэнні няма, — значыць гэта камусьці трэба!

Зрэшты, не варта ствараць гіпотэзы — трэба толькі прайсці па некалькіх абменных кропках, каб высветліць у гэтым загадкавым фінансавым працэсе хоць бы адну зацікаўленую асобу.

Менавіта з такой мэтай аўтарка гэтых радкоў і зрабіла «ваяж» па цэнтру сталіцы.

**Назіранне першае**. Нашы абменныя пункты штосьці моцна «ліхаманіць»: то няма ў наяўнасці беларускіх грошай (цікава, валюту ж у іх набываюць не за валюту ж), то не прадаюць, а толькі набываюць саму валюту. Прычым (асабістыя назіранні!) ліхаманка звычайна пачынаецца ў час чарговага «шторму» з курсам долара. Зразумела, што ўсе чакаюць, у які ж бок падзьме вецер. А хто аказваецца крайнім — няцяжка здагадацца.

**Назіранне другое.** Час работы, указаны на традыцыйных шыльдачках, увогуле не азначае, што вашы патрэбнасці і іх жаданні супадуць, і вас будуць там чакаць. Ды і на самай справе, хто ў кім мае патрэбу? Так што не лянуйцеся прабегчы па бліжэйшых абменных пунктах: а раптам дзе-небудзь вам усё ж усміхнецца ўдача.

**Назіранне трэцяе.** Стоячы ў чарзе, вы назіраеце, як вашы суседзі, што стаяць наперадзе вас, здаюць дробныя купюры (ура, значыць яны ўсё-такі існуюць!) і радуецеся ў душы. Але не вельмі ўсё ж радуйцеся, таму што калі падыдзе ваша чарга, вам ветліва скажуць, што такіх у няўнасці зараз няма. Можаце біць сябе кулаком у грудзі, калі, вядома, упэўнены ў поспеху. Але лепш за ўсё звярнуцца ў такой сітуацыі да сабратоў па чарзе. Як правіла, тыя, хто жадае здаць дзяржаве «драбязу», стараюцца не траціць марна час на доўгае стаянне ў чарзе і хуценька «сплаўляюць» яе валютчыкам, якія праяўляюць да яе цікавасць.

**Назіранне чацвёртае.** Каля акенцаў абменных пунктаў разгортваецца бізнес крыху ніжэйшы рангам: хлопчыкі, якія на сірот зусім не падобныя, выпрошваюць у тых, хто стаіць у чарзе, грошы... «на хлеб». Гучыць іх «просьба» вельмі па-дзелавому, і адмову яны ўспрымаюць зусім раўнадушна, працягваючы далей свой занятак. Але калі хто-небудзь паспрабуе іх прысароміць, то ў адказ можа пачуць не зусім прыемныя словы.

Наогул, усё ўбачанае і пачутае наводзіць да думкі, што, бадай, самымі «гібкімі» ў сённяшняй сітуацыі застаюцца менавіта валютчыкі: яны гатовы выправіць усе хібы, дапушчаныя нашымі фінансістамі. Бо ў іх ёсць у наяўнасці ўсё: долары і марачкі, рускія і беларускія рублі, буйныя і дробныя купюры. Прычым практычна ў любы час сутак.

Цікава, чаму ў абменных пунктах нельга набыць тое, што ёсць у гэтых дзялкоў падпольнага бізнесу? Патрабуецца дробная валюта — калі ласка, але (яны таксама не лыкам шытыя) — ужо па «камерцыйнаму» курсу! У той час як у банку долар можна набыць за 13.100 рублёў, «дробныя» будуць вам прапанаваны такімі хлопцамі па 13500 рублёў. Розніца відавочная. А калі вас штосьці не задавальняе, то, як кажуць, горад вялікі...

Што ж, застаецца толькі дадаць, што трыццаць тры няшчасці, відаць, маладому вулічнаму «бізнесу» сёння не пагражаюць.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

БЕЛАРУСЫ ЗА МЯЖОЙ

# У амерыканскіх парламентарыяў больш грошай і свежага паветра, а ў нашых — больш шчырасці



***Адбыўся рабочы візіт у ЗША групы ў складзе 12 дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Пасланцы Авальнай залы знаёміліся з амерыканскім вопытам парламентарызму і кіравання дзяржавай, з сістэмай узаемадзеяння заканадаўчай і выканаўчай уладаў. На 16 дзён іх працоўнае месца «пераехала» ў кангрэс і дзяржаўны дэпартамент ЗША, ва ўпраўленне па заканадаўчых справах Белага дома. У гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» сваімі ўражаннямі дзеліцца намеснік старшыні парламенцкай Камісіі па бюджэту, падатках, банках і фінансах Людміла Гразнова.***

**— Давайце спачатку супакоім скептыкаў, якія не прамінуць выказацца ў тым сэнсе, што новыя дэпутаты, маўляў, яшчэ не ўзяліся як след за работу, а ўжо раз'язджаюць па замежжы за народныя грошыкі...**

— Мне вельмі хацелася б развеяць такую прадузятасць: калі ты едзеш за мяжу, то ты дрэнны дэпутат. Тым больш, што ў нашым выпадку ніводнага рубля беларускага падаткаплацельшчыка не было зрасходавана. Паездку практычна цалкам фінансаваў прымаючы бок. Арганізатарам і спонсарам было Бюро па справах адукацыі і культуры Інфармацыйнага агенцтва ЗША (ЮСІА). Дэпутаты былога склікання ў свой час таксама ўдзельнічалі ў такой акцыі.

**— Вы яшчэ не паспелі забыць сваё самае моцнае ўражанне на амерыканскай зямлі?**

— Мяне асабіста ўразілі адносіны амерыканцаў да сваёй Канстытуцыі. Мы і раней ведалі, што літару закона ў ЗША ставяць вышэй за ўсё, але не падазравалі, наколькі ўсё гэта паважаецца, наколькі Канстытуцыя з'яўляецца для грамадзян сапраўды «боскай кнігай», якую можна параўнаць хіба што з Бібліяй. Гэта было для нас амаль што шокам. Усё вымяраецца ўласным вопытам. Там палітык, які прадэманстраваў толькі раз непаважлівыя адносіны да Асноўнага Закона, больш не палітык. А ў нас Канстытуцыю не папіхне толькі лянівы.

**— Калі закон у ЗША мае такі высокі статус, ці не гаворыць гэта і аб высокім статусе тых, хто яго зацвярджае?**

— Несумненна. Члены абедзвюх палат кангрэса — палаты прадстаўнікоў і сената — займаюць пасля прэзідэнта самае ганаровае месца ў амерыканскай грамадскай іерархіі. Гэта не проста клеркі, ці «нардэпы», як іх называюць у нас, — гэта прызнаныя «вяршкі грамадства», якія карыстаюцца пастаяннай увагай з боку публікі і прэсы.

**— Аб «хлебе надзённым». Сярэднямесячная зарплата беларускага дэпутата — 150 долараў па курсу. Нікога не здзівіш тым, што «праца галавой» у нас мала цэніцца — вы зарабляеце менш, чым вадзіцель ці грузчык у малым прадпрыемстве. А як у гэтым плане справы ў іх?**

— Прывяду толькі факты, а чытач няхай сам супастаўляе: паводле даных на 1995 год, дастатак сярэдняй амерыканскай сям'і складае 27 тысяч долараў у год. Гадавы даход парламентарыя — каля ста тысяч долараў.

**— Што б вам хацелася запазычыць для паляпшэння ўласнай працы з практыкі амерыканскага кангрэса?**

— Перш за ўсё хацелася б мець тыя службы, якія дапамагаюць парламентарыю ў ЗША выконваць свае прамыя функцыі. Там, напрыклад, на кожнага сенатара працуе вялікая колькасць людзей: даследчыкі, аналітыкі, вучоныя, статыстыкі, бібліятэкары — спецыялісты абсалютна ва ўсіх галінах. Да падрыхтоўча-заканадаўчай дзейнасці прыцягваюцца цэлыя інстытуты — пры распрацоўцы падаткаў, бюджэту, законаў. Запатрабаваная кангрэсменам інфармацыя паступае да яго максімальна поўная, вывераная амаль да коскі. А мы аказваемся ў сітуацыі зусім процілеглай: у нашай бюджэтнай камісіі, адной з самых складаных, не набярэцца і дзесятка штатных супрацоўнікаў, калі іх павінны быць сотні. Вось і займаемся самадзейнасцю. У межах магчымага і на мяжы сіл. А па ідэі мы толькі павінны ацэньваць і дапрацоўваць тое, што было падрыхтавана і вычышчана спецыялістамі. Нам вельмі неабходны гэтыя людзі, таму штат юрыстаў, эканамістаў, фінансістаў, аналітыкаў для ВС павінен быць павялічаны на некалькі парадкаў. І не толькі ў колькасным аспекце, але і ў якасным.

Другі момант з таго, што можна і трэба зрабіць для ВС, — гэта памяняць парадак сесіённай працы.

**— Якім чынам? Што вы маеце на ўвазе?**

— Уявіце сабе сітуацыю, калі людзі павінны сядзець з 10 да 18 у пыльнай зале, дзе няма сонечных промняў, няма кіслароду, з перапынкам на 2 гадзіны. Пры такім рэжыме праз нейкі час наша рэакцыя адзін на аднаго можа стаць неадэкватнай, ды і здароўе ад гэтага не паляпшаецца. Пра якую працаздольнасць можна гаварыць?

У кангрэсе няма такога, што ўсе сядзяць у зале ў сваіх крэслах і перамяшчаюцца толькі з дазволу спікера. Калі наша дэлегацыя была на пасяджэнні палаты прадстаўнікоў, у прэзідыуме сядзела некалькі чалавек, у зале іх такса ма налічвалася не больш дзесятка — толькі тыя, хто павінен быў выступаць (там парадак выступленняў загадзя распісаны па хвілінах). Астатнія знаходзяцца ва ўласным офісе, працуюць над сваёй інфармацыяй і назіраюць з дапамогай манітора за ўсім, што адбываецца ў зале.

**— А што ж яны робяць пры неабходнасці агульнага галасавання? Няўжо салідныя кангрэсмены па некалькі разоў на дзень збягаюцца з усіх бакоў Капітолія?**

— Не збягаюцца, а з'язджаюцца.

**— ?!.**

— Па калідорах кангрэса курсіруе спецыяльны трамвайчык. Выходзячы з кабінета, парламентарый праз хвіліну аказваецца ў зале пасяджэнняў. Гэта зусім іншыя ўмовы працы. І вынікі абсалютна іншыя.

І трэцяе з таго, што трэба ўзяць нам на ўзбраенне, — гэта адкрытасць працы Вярхоўнага Савета ды і іншых дзяржаўных устаноў — Адміністрацыі, Кабінета Міністраў, Канстытуцыйнага суда. У Злучаных Штатах за працай кангрэса з балконаў мае магчымасць назіраць любы грамадзянін. Пасля выканання пэўных мераў бяспекі (праверка на наяўнасць зброі і інш.), гледачоў бясплатна дапускаюць на балконы, адкуль, як у тэатры, яны могуць назіраць за працай свайго любімага ці нелюбімага сенатара, убачыць, з кім ён мае зносіны, як выглядае, што гаворыць. У людзей фарміруецца адначасова і павага да ўлады, і сваё асабістае меркаванне, а не «адно на ўсіх», як у нас яно падаецца з дапамогай тэлебачання.

**— Выкажу меркаванне, што вашы заманлівыя ідэі застануцца толькі ідэямі. Вам адкажуць, што на павелічэнне штату супрацоўнікаў сакратарыята няма грошай, трамвайчыкі ў калідорах — гэта дробнае хуліганства, а пабочныя асобы на балконах — гэта ўжо буйное...**

— Спадзяюся, што не. Ва ўсякім разе, невялікі крок у гэтым накірунку зроблены. Днямі першы намеснік спікера ВС Васіль Новікаў (ён таксама быў у складзе нашай дэлегацыі) сустракаўся з членамі дзіцячага парламента. Для юных палітыкаў была арганізавана экскурсія па будынку парламента, паказана Авальная зала.

**— Мы гаварылі пра запазычанне карыснага ў амерыканцаў. Можа, і ў нас ёсць нешта такое, чым было б не сорамна падзяліцца з заморскімі калегамі?**

— Магчыма, у нас больш шчырасці. Іх прыемная вышкаленасць, некаторая тэатральнасць постсавецкаму чалавеку кідаецца ў вочы. На іх тварах заўсёды ўсмешка, але за ёй адчуваецца-такі пэўная дыстанцыя.

**— Як беларускіх парламентарыяў прымалі афіцыйныя асобы ў Амерыцы?**

— Па-рознаму. З аднаго боку, яны разумеюць нашы праблемы. Выказваюць задаволенасць, што, нягледзячы на цяжкасці, новы Вярхоўны Савет усё ж быў абраны. З другога боку... Час ад часу ўсплывала гісторыя са збітым паветраным шарам — па гэтаму факту нас ведаюць.

Многа шуму нарабіла навіна аб падпісанні дагавора з Расіяй. Выказвалася боязь магчымасці вяртання да старой імперыі, да старых парадкаў. Яны ж трохі не так, як мы, прывыклі жыць — гэта мы гаворым адно, робім другое, маем на ўвазе трэцяе. Зразумелая нам мнагаслойная падаплёка зусім незразумелая для іх. Амерыканскія прадпрымальнікі, у прыватнасці, нашы тлумачэнні не прынялі: надта ж мы нестабільная, без акрэсленага накірунку краіна. А раз не прынялі, то і інвестыцый у эканоміку чакаць адтуль няма чаго. Зразумела, што багацейшымі ад гэтага мы не станем.

**— Давайце кінем пра сумнае і пагаворым пра што-небудзь прыемнае.**

— Добра, тады пра амерыканскі сервіс. Аднойчы я пакінула свой фотаапарат і дыктафон у вашынгтонскай гасцініцы. Выявілася гэта толькі ў Сан-Францыска. Вырашыўшы, «што прапала — не вернеш», сказала ўсё ж пра гэта перакладчыку. Праз нейкі час ён тэлефануе мне ў нумар і гаворыць: «Людміла, вашы рэчы будуць чакаць вас у Нью-Йорку». І на самай справе, калі мы прыехалі ў самы вялікі горад ЗША, мне ўручылі пакет са згубленымі фотаапаратам і дыктафонам.

А наогул у нас было вельмі многа прыемных хвілін, у тым ліку звязаных з адносінамі паміж сабой. Гэта, відаць, феномен такі — «рускія за мяжой», калі яны падружыліся. Ці гэта разрадка пасля стамляльнай працы ў парламенце? Ці проста сабраліся такія людзі, якія дапаўнялі адзін аднаго?

Незалежна ад ідэалогіі і палярнасці поглядаў, у нас усталяваліся абсалютна сяброўскія адносіны: столькі расказана анекдотаў, праспявана песень! Калі я цяпер сустракаю членаў групы ў парламенце, то падыходжу да іх зусім як свая. Каб дэпутаты знаходзілі больш узаемаразумення, іх трэба часцей адрываць ад Авальнай залы, рабіць сумесныя «вылазкі».

**— Па расказах, сучасныя амерыканскія жанчыны-парламентарыі — амаль што ўсе ярыя феміністкі. Ці не «набраліся» нашы жанчыны-дэпутаткі, якія ўдзельнічалі ў візіце, такіх поглядаў ад іх?**

— Мяркую, не. Здаецца, хоць у гэтым накірунку наша грамадства больш развітое, чым амерыканскае. Падзел па полу ў нас намнога меншы. Але мы ўсё ж часам кідаемся з крайнасці ў крайнасць, гаворым: «Вось мужчынапалітык, а вось жанчына-палітык». Ці не лепш сказаць, ЯКІ гэта палітык, якія ў яго арыенціры і прафесіянальныя якасці?

Што ж, сапраўды.

**Гутарыў Цімур КУДЗЕЯР.**
**Фота С. ГРЫЦА.**

# ЧЫМ ЖЫВУЦЬ СЁННЯ АДВАКАТЫ? ВЫРАШЭННЕМ ПРАБЛЕМ ПАДАБАРОННЫХ І... СВАІХ

**Калі быць шчырым, ніколі б не падумаў, што прэзідыум Мінскай абласной калегіі адвакатаў можа размяшчацца ў будынку, які знешне нагадвае хутчэй вясковую хатку састарэлай адзінокай бабулі (нягледзячы на намаганні юрыстаў надаць яму больш прыстойны выгляд), але ніякім чынам не вышэйпамянёны прэзідыум.**

Сціплы драўляны аднапавярховы домік упісаўся на вуліцы Вакзальнай у Мінску ў шэраг такіх жа непрыметных будынкаў. Між тым, як прызнаўся ў гутарцы з карэспандэнтам газеты старшыня прэзідыума Мікалай Шаліжа, тут беларускім юрыстам часта прыходзіцца прымаць дэлегацыі з-за мяжы, якія прыбываюць у рэспубліку з мэтай пазнаёміцца з работай нашай адвакатуры. Можна толькі ўяўляць, якое ўражанне застаецца ў гасцей, калі яны сутыкаюцца з рэальным бытам, умовамі працы абаронцаў правоў мясцовых грамадзян. Мяркую, не самае лепшае. Разам з тым, праблема размяшчэння прэзідыума Мінскай абласной калегіі адвакатаў на фоне бядотнага становішча юрыдычных кансультацый вобласці ўсё ж выклікае крыху менш нараканняў: большасць кансультацый размяшчаецца наогул у падвальных і паўпадвальных памяшканнях, некаторыя займаюць, без перабольшання, абмежаваную плошчу ў 5 кв. метраў.

— У 1985 годзе, — гаворыць Мікалай Пятровіч, — Савет Міністраў прыняў Пастанову «Аб паляпшэнні ўмоў працы юрыдычных кансультацый, натарыяльных кантор і судоў». Дык вось, калі пасля таго па натарыяльных канторах і судах пытанне неяк вырашаецца, то ў адносінах да юрыдычных кансультацый справа з месца практычна не зрушылася, нягледзячы на мае шматлікія звароты і ў былы ЦК КПБ, і ў Савет Міністраў, у іншыя вышэйшыя органы. Прыкладаў таму шмат. Так, у Барысаве ў падвальным памяшканні працуе юрыдычная кансультацыя, дзе ў трох пакоях размяшчаюцца 22 юрысты: у свой час там ніхто працаваць не згадзіўся — аддалі нам. І сёння не вырашана пытанне па Валожынскай юрыдычнай кансультацыі — там адвакаты таксама займаюць малюсенькае памяшканне на ўскраіне горада. А ў Смалявічах і наогул юрыдычную кансультацыю з арандуемай плошчы выселілі. Куды чалавек цяпер павінен прыйсці, каб знайсці адваката, калі няма юрыдычнай кансультацыі?.. У гэтай сітуацыі ўзнікае элементарнае пытанне: ці выконваецца канстытуцыйны абавязак дзяржавы па забеспячэнню грамадзян прававой дапамогай у любы час? Адна справа — дэкларацыі, і зусім іншая — што адбываецца ў рэчаіснасці. Мы імкнёмся да прававой дзяржавы, дык давайце рабіць крокі насустрач ёй.

**— Няўжо ўсё выглядае так песімістычна?**

— Без вырашэння гэтай праблемы — так. Па сутнасці, зараз многія людзі пазбаўлены магчымасці атрымліваць прававую дапамогу: як бачыце, бывае так, што яе проста няма дзе атрымаць, а часам чалавек не рашаецца пры сведках (у адным цесным памяшканні працуюць па 2-3 і больш адвакатаў) выкласці ўсе тонкасці справы. Павінна ж захоўвацца і адвакацкая тайна. А гэтага якраз у такіх умовах быць не можа.

Зразумела, Міністэрства юстыцыі імкнецца нам дапамагчы, але і яно не мае такіх сродкаў, каб, як, напрыклад, у Клецку выдзеліць у новым будынку суда памяшканне для юрыдычнай кансультацыі.

**— Мікалай Пятровіч, існуе такая праблема, як паляпшэнне іміджа адваката. Наколькі мне вядома, многія юрысты незадаволены тым фактам, што па існуючаму закону яны допускаюцца да справы толькі з моманту прад'яўлення матэрыялаў справы для азнаямлення грамадзяніну, а ў некаторых выпадках, прадугледжаных законам, — з моманту прад'яўлення абвінавачання. У цывілізаваных краінах, мякка кажучы, такі падыход выклікаў бы здзіўленне.**

— Сапраўды, заканадаўства ў нас даўно састарэлае, яно, можна сказаць, сталінскіх часоў: крыху мянялася, падчышчалася, але ж не адпавядае сённяшняму дню. Чамусьці лічыцца, што дарослыя людзі ў стане абараніць сябе самі. Аднак чалавек знаходзіцца ў той момант у такім псіхалагічным стане, што часта не можа правільна ацэньваць ні пытанні, якія яму задаюць, ні свае адказы, ні дзеянні. На мой погляд, гэта няправільна. Калі чалавек з'яўляецца вышэйшай каштоўнасцю дзяржавы, як абвясціла Канстытуцыя, тады трэба так пабудаваць следчы працэс і судовы, каб сапраўды ў першую чаргу думаць аб тым, як абараніць невінаватых. Тады не будзе такіх працэсаў, як «віцебская справа», і дзяржава не будзе займацца рэабілітацыяй невінаватых. А тэндэнцыя зараз ідзе такая — і ў міліцыі, і ў пракуратуры: як мага далей адсунуць ад справы адвакатаў. Добра, што Вярхоўны суд паставіў на гэтым шляху нейкую перашкоду: калі ў справе няма даных, што волевыяўленне абвінавачваемага або падсуднага на сваю абарону было без удзелу адваката, то такая справа ідзе на дасledаванне або на новы судовы разгляд.

**— А як наконт права затрыманага на адзін тэлефонны званок?**

— Думаю, права на адзін званок павінна быць закладзена ў законе і рэальна прадастаўляцца чалавеку. Дарэчы, ёсць такія факты, калі грамадзяніна затрымліваюць (зразумела, ніякіх званкоў) і б'юць некалькі гадзін запар. Натуральна, многія пасля гэтага пішуць, што далі паказанні пад прымусам. Былі і ў маёй практыцы такія справы. Напрыклад, адзін падабаронны па маёй парадзе падаў касацыйную скаргу ў гарадскі суд. Што тут цікава — медыкі яго ўважліва аглядалі і ўсе пабоі запісалі ў картачцы. А пракурор пасля заяўляе: праведзена праверка, факт не ўстаноўлены. Каму патрэбен такі пракурорскі нагляд?

І яшчэ праблема — стары Крымінальна-працэсуальны кодэкс і Канстытуцыя, якая прынята намнога пазней. Дык вось, у 62-м артыкуле Канстытуцыі гаворыцца, што кожны грамадзянін мае права на юрыдычную дапамогу, у тым ліку права карыстацца ў любы момант дапамогай адвакатаў і іншых сваіх прадстаўнікоў у судзе і іншых дзяржаўных органах, органах мясцовага кіравання, на прадпрыемствах, установах і ў арганізацыях. Гэта значыць, няма ніякіх абмежаванняў. На практыцы атрымліваецца (я з гэтым сутыкнуўся двойчы) зусім інакш. Не буду закранаць падрабязнасцей гэтых спраў, але вось што цікава: малады афіцэр міліцыі, які спрабаваў аказаць ціск на аднаго з маіх падабаронных, пасля поўнага свайго фіяска (а наша спасылка тады ішла менавіта на 62-і артыкул Канстытуцыі) запытаў у свайго начальніка: «Мне якія-небудзь указанні або інструкцыі па прымяненню Канстытуцыі будуць?» Я схапіўся тады за галаву, бо, як бачыце, у некаторых работнікаў міліцыі адносіны да Канстытуцыі, да правоў чалавека наступныя: яны будуць яе прытрымлівацца толькі тады, калі будуць адпаведныя ўказанні...

**— Мікалай Пятровіч, хацелася б пачуць адказ яшчэ на адно пытанне. Часам у друку з'яўляецца інфармацыя, якая не лепшым чынам адбіваецца на іміджы адвакатаў...**

— Я зразумеў вас. Крыўдна, што акрамя бед і праблем, скажам так, пасланых Богам, яшчэ часам і карэспандэнты паважаных і любімых газет публікуюць пра адвакатаў розныя небыліцы крымінальнага плана. Гэтыя публікацыі, вядома, не могуць палепшыць імідж адвакатаў, а, наадварот, адпуджваюць грамадзян, прымушаюць звяртацца да людзей, якія называюць сябе знаўцамі права, самавольна аб'яўляюць сябе адвакатамі і бяруцца за справу толькі за вялікія грошы. Церпяць у выніку простыя людзі. Магу вас запэўніць, што за шмат гадоў існавання Мінскай абласной калегіі адвакатаў не было ніводнага выпадку, каб адвакат пераступіў закон.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# ПАВОДКА НА ПАЛЕССІ ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Так, складвалася ўражанне, што на Палессі ўсё спакойна і пагроза ўжо мінула. Да таго ж здавалася, што ў жыхароў вёсак, якія знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці ад ракі, няма ніякіх іншых турбот і заняткаў, акрамя як, рызыкуючы жыццём і здароўем, лавіць рыбу на старыцах ля Прыпяці, там, дзе яшчэ не паспеў растаць лёд.

Але гэтыя думкі так і засталіся ў Лунінецкім ды Жыткавіцкім раёнах. Ранейшы неспакой зноў вярнуўся ўжо на Століншчыне; ад выгляду Гарыні як халодным душам абдало. Перад вачыма паўстала бязмежная прастора вады, сярод якой нельга было нават вызначыць рэчышча ракі. (У гэты момант я пашкадаваў, што не захапіў з сабой фотаапарат. Але пазней не раз пераканаўся, што гэта не такая ўжо і бяда. Бо на дзвюх-трох фатаграфіях аніяк нельга было б паказаць сотні хат, якія па самыя аканіцы апынуліся ў вадзе, ды тысячы людзей, якіх стыхія выгнала з роднага жытла.) Так, часткова або поўнасцю аказаліся затопленымі рабочы пасёлак Рэчыца, горад Столін, вёскі Белавуша, Беражное, Вікаравічы, Харомск, Угалец, Рубель, Хотамель, Лісовічы ды іншыя. Здаецца, лягчэй назваць тыя населеныя пункты, якіх не закранула стыхія. Напрыклад, высокай дамбай адгарадзіўся ад ракі Давыд-Гарадок, ды бліжэйшыя вёскі, а таксама тыя, што размясціліся на ўзвышшы.

Гарынь выйшла на пойму літаральна за адну ноч — з 11 на 12 красавіка: дакаціўся грозны вал з Карпат. Узровень вады імкліва ўзнімаўся і на працягу дня. Першым сустрэў імклівую хвалю рабочы пасёлак Рэчыца. Тут рака мела вузкі перашыек, таму ўся вада не змагла адразу прайсці, што і выклікала імклівы рост яе ўзроўню на гідрапасту «Рэчыца». Ён склаў 593 сантыметры (звычайны ўзровень вады ў гэтым месцы складае прыкладна тры метры, але ўжо пры 410 сантыметрах рака выходзіць на пойму). Згодна са шматгадовымі данымі, падчас апошняй найбольш вялікай паводкі ў 1979 годзе ўзровень вады на гідрапасту быў усяго на 45 сантыметраў больш. Так што без перабольшання можна сказаць, што сёлетняя паводка мае амаль такія ж маштабы, як і разводдзе семнаццацігадовай даўнасці.

З таго часу шмат змянілася. Мясцовыя жыхары прынялі меры для таго, каб абараніцца ад вялікай вады ў будучым. У многіх месцах выраслі высокія дамбы, якія не «па зубах» нават моцнай стыхіі. Але ў той жа час, узятая з усіх бакоў «у абцугі» Гарынь моцна зменшыла плошчу свайго разліву. А калі вадзе нельга разліцца ўшыркі, яна, вядома, паднімаецца ўверх. Гэтым часткова і абумоўлены надзвычай высокі ўзровень вады ў гэтым годзе.

Дарэчы, неабходна асобна сказаць пра падрыхтоўку да паводкі. Тое, што пра яе з трывогай загаварылі яшчэ ў канцы лютага, дало свой плён. Як насельніцтва, так і раённыя ўлады выкарысталі гэты час мэтанакіравана. Упэўнены, каб не своечасовыя работы на дамбах, шлюзах ды іншых інжынерных збудаваннях, маштабы палескай бяды былі б куды большымі. Праўду кажуць, што калі будзеш чакаць горшага, то атрымаецца лепш. Вось і чакалі. У вёскі магчымага падтаплення завезлі прадукты, гумавыя боты, газу. Праўда, былі выпадкі калі на бядзе хацелі і зарабіць. Напрыклад, паўлітра газы вяскоўцам прадавалі па 7000 рублёў (!). Дапамагло і аператыўнае назіранне за станам рэк, а таксама каардынацыя дзейнняў і абмен інфармацыяй з украінскімі калегамі. Дарэчы, некалькі слоў пра інфармаванасць насельніцтва. Вельмі здзівіла мяне пазіцыя столінскай раённай газеты «Навіны Палесся»: у двух апошніх нумарах, якія трапіліся мне на вочы, я не знайшоў ніводнага слова пра праблему першачарговай важнасці — паводку.

На другі дзень вада па-ранейшаму паднімалася, але не з такой хуткасцю, як напярэдадні. Мясцовыя жыхары, навучаныя шматгадовым вопытам, адзначалі, што вада прыбывае тры дні, яшчэ дзень стаіць, а потым павольна ідзе на спад. Але ўсё гэта, безумоўна, залежыць ад многіх фактараў. Напрыклад, у камісіі райвыканкома па надзвычайных сітуацыях не вельмі давяралі такім назіранням, а апервалі канкрэтнымі фактамі. Ва ўсякім разе, у Рэчыцы чакалі яшчэ адну хвалю вады з Украіны. Паводле аператыўных звестак, у рацэ Случ, якая таксама бярэ пачатак ля Карпат і недалёка ад беларускай мяжы ўпадае ў Гарынь, узровень вады імкліва ўзняўся на 80 сантыметраў. Чакалася, што палова гэтай вады дойдзе да Рэчыцы. У той жа час вялікія надзеі ўскладваліся на Прыпяць, якая яшчэ мела рэзервы для прыёму вады з Гарыні. І, як мы пераканаемся, пазней гэтыя спадзяванні спраўдзіліся, што больш не дазволіла павысіцца ўзроўню. Праўда, існавала пагроза, што Прыпяць разальецца хутчэй у выніку нечаканага павышэння ўзроўню вады ў раёне Петрыкава. Адным словам, калі б можна было ўсё напісанае схематычна намаляваць на карце, то гэта хутчэй нагадвала б карціну ваенных дзеянняў, дзе людзі змагаліся днём і ноччу з раз'юшанай і неўтаймоўнай стыхіяй.

Дарэчы, дзеля шырэйшага адлюстравання падзей можна было б прывесці лічбы, якія характарызавалі дынаміку перападу ўзроўню вады. Але справа ў тым, што адзіны абсталяваны гідрапост ёсць толькі ў Рэчыцы. Тым не менш, яго паказчыкі не адлюстроўваюць нават поўнай сітуацыі на Гарыні, не кажучы ўжо пра становішча на іншых рэках. Таму людзі вымушаны былі кіравацца ўласнымі прымітыўнымі меркамі, паказчыкі на якіх не заўсёды супадалі.

Дзень трэці — свята Вялікадня. Тым не менш, у многіх жыхароў Століншчыны настрой у гэты дзень быў зусім не святочны. Мала таго што наваколле заліла вада, дык яшчэ ноччу выпаў снег. Сантыметраў пятнаццаць. Мокры снег з дажджом працягваўся і ўвесь дзень 14 красавіка. У гэты дзень тыя, хто застаўся без жытла, угледаліся ў адчаі ў шэрае неба і пыталіся ў думках, за што ж так прагневаўся на іх Бог? Сапраўды, за што? Гэтым пытаннем не раз задаваўся і я. Апошнім часам няма ніводнага года, каб на Палессі нешта не здарылася. Мала таго, што чорнае крыло Чарнобыля закранула гэтыя землі, дык тут абавязкова ці згарыць усё ў выніку сухога лета, ці патоне, як гэта было два з паловай гады таму.

Але адзіная добрая вестка, якую ўсё ж прынёс Вялікдзень, не магла не радаваць — узровень вады перастаў расці, а пад вечар амаль незаўважна, міліметр за міліметрам, пайшоў на спад.

У панядзелак ужо нават без лінейкі можна было заўважыць адступленне стыхіі. Узровень вады ў раёне Давыд-Гарадка знізіўся сантыметраў на 20. Вада адыходзіла, пакідаючы пасля сябе на беразе акрэсленую лінію з нанесенага бруду, а на затопленай прасторы сям-там з'явіліся першыя галінкі лазы ды пагоркі зямлі. Зусім як па Біблії.

Зноў той жа шлях у Мінск. Але карціна, якая праносілася за акном аўтобуса была зусім не тая, як убачаная чатыры дні таму. Ужо знаёмае бяскрайняе разводдзе ў Жыткавіцкім і Лунінецкім раёнах, а там, дзе няма вады, — снегавое покрыва, якое ператварылася ў суцэльную браню пасля невялікага начнога марозу. Гэтая карціна назіралася да самага Салігорска. Затое на Міншчыне вясна зрабіла сваю справу, за чатыры дні амаль поўнасцю ачысціўшы наваколле ад снегу.

Падчас паездкі я раз здзіўляўся характару палешукоў, якія за доўгія гады прызвычаіліся да падобных выпрабаванняў і не губляюць вытрымкі. Вядома, ні пра якую эвакуацыю жыхароў падтопленых вёсак і размовы ісці не можа. Толькі ў выключных выпадках людзі вымушаны былі пакінуць родныя хаты. У большасці ж яны засталіся: хто на лодках, хто на плытах, а хто проста ў ботах ратавалі тое, што яшчэ можна было выратаваць, альбо проста ахоўвалі сваё жытло, застаючыся на нагах круглыя суткі. І нават у гэтых, здаецца, нечалавечых і трагічных умовах заставалася месца для гумару. Прывяду толькі адзін прыклад. Вы памятаеце такое выказванне, характэрнае для нашага чалавека: нічога, што хлеў згарэў, затое колькі мышэй ляснула? Дык вось падчас наведвання Століншчыны я пачуў ад аднае кабеты нешта падобнае: нічога, што вада агарод заліла, затое колькі кратоў патоне! Дзіва, ды і толькі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

Мінск — Давыд-Гарадок — Столін — Мінск.

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца малавоблачнае, без ападкаў надвор'е. Тэмпература паветра ў Гродне, Магілёве, Віцебску — 12—14, Брэсце, Гомелі, Мінску — 13—15 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі па крайняму паўночнаму ўсходу невялікія ападкі. Тэмпература ўначы — мінус 1 — плюс 4, удзень — 12—17 градусаў цяпла.

## ДОМ ЛІТАРАТАРА ЗАПРАШАЕ

**17 красавіка**, серада. Прэм'ера мастацкага фільма рэжысёра Віталя Шувагіна «Метанойя». 18.30. Вялікая зала.

**24 красавіка**, серада. Вечарына з нагоды першай кніжкі: Пятро Ільюкевіч і Міхась Мельнік. 18.30. Канферэнц-зала.

**25 красавіка**, чацвер. «Боль і смутак Чарнобыля». Літаратурны вечар. 18.30. Вялікая зала.

**30 красавіка**, аўторак. «Голас гісторыі нашай Айчыны». Юбілейная вечарына гісторыка і пісьменніка Міколы Ермаловіча. 18.30. Вялікая зала.

**Сардэчна запрашаем**!

г. Мінск, вул. Фрунзе, 5, тэл. 36-09-09.
Уваход вольны.

*ХАКЕЙ. ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ*

## НАДЗЕЯ ПАМІРАЕ АПОШНЯЙ...

**Па-рознаму можна ацэньваць выступленне Нацыянальнай зборнай Беларусі па хакею ў групе «В». Пасля ўдалага дэбюту і перамогі над моцнай зборнай Швейцарыі адбылася невыразная гульня з гаспадарамі пляцоўкі. Вядома ж, айчынныя балельшчыкі чакалі большага. Праўда, чамусьці нам здаецца, што беларусы ў міжнародным хакеі ўжо сабаку з'елі і павінны перамагаць усіх запар без разбору. Тыя ж галандцы маюць значна большы стаж выступленняў у спаборніцтвах такога рангу. У свой час яны нават выступалі ў фінальнай частцы зімовых Алімпійскіх гульняў. Усё ж перамога з лікам 3:2, вырваная беларусамі за 22 секунды да фінальнага свістка, пакінула нас асноўнымі прэтэндэнтамі на адзіную пуцёўку ў групу «А».**

Што датычыцца гульні з камандай Латвіі, то, безумоўна, тут не абышлося без псіхалагічнага фактара, які «арганізаваў» падначаленым Андрэя Сідарэнкі канадскі арбітр. Магчыма, беларускай зборнай і можна было «спісаць» паражэнне з лікам 1:4 на суддзю, які акуратна пакідаў іх у меншасці, але ж у такіх сустрэчах не трэба даваць падстаў для выдалення. На жаль, нашы асаблівай дысцыплінаванасцю не вызначаюцца і гатовы па першаму клічу душы не толькі ўлажыць саперніка на лёд, але і з задавальненнем «памасіраваць» фізіяномію.

Не сумняваюся, што нават арбітр не змог бы сваімі дзеяннямі паўплываць на ход гульні, калі б працэнт рэалізацыі, як кажуць, стопрацэнтных момантаў, раўняўся хаця б 50. Але ж ці то фартуна, ці то залішняя нервовасць і хваляванне не даюць беларусам закідваць столькі, колькі яны могуць.

Праўда, у матчы з палякамі было забіта ўжо шэсць шайб пры трох прапушчаных. Можа, тэлеграма Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, пасланая ў Эйндховен у адрас нашай зборнай, падчас гульні з палякамі падбадзёрыла хакеістаў і яны ўсведамілі, што за іх гульнёй сочыць уся краіна. Цяпер многае будзе залежаць ад той жа зборнай Польшчы, якая ўчора гуляла з латышамі, а заўтра сустракаецца са зборнай Швейцарыі. Калі палякі не прайграюць гэтыя сустрэчы, то перад намі вырысоўваецца даволі светлая перспектыва, паколькі зборныя Латвіі і Швейцарыі яшчэ ў апошні дзень чэмпіянату, 20 красавіка, сустракаюцца паміж сабой. Праўда, беларусы павінны выканаць адну ўмову: апошнія тры матчы з камандамі Даніі — 17 красавіка, Японіі — 19 красавіка і Вялікабрытаніі — 20 красавіка выйграць і як мага з большым лікам.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ПАВОДКА: ПЕРШАЯ «ХВАЛЯ» ПРАЙШЛА...

Паводле даных аператыўнай групы МНС па проціпаводкавых сітуацыях, у Беларусі практычна прайшла першая хваля «вялікай вады».

Таянне снегу дзякуючы цёпламу надвор'ю працягвалася і ў апошнія дні. У выніку на большай частцы тэрыторыі краіны снегавое покрыва сышло поўнасцю і захавалася толькі ў Віцебскай і паўночнай частцы Гродзенскай абласцей. Аднак выпаўшыя ападкі па захаду і паўднёваму захаду Беларусі прывялі да ўтварэння тут снегавога покрыва вышынёй 20—35 см. У выніку снегападу і падзення дрэў, якія не вытрымалі цяжару снегу, 12—15 красавіка было адключана 127 трансфарматарных падстанцый, пакінута без электрычнасці 40 населеных пунктаў і 2 фермы ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях. Дзякуючы намаганням электрамантажных брыгад падача электраэнергіі была адноўлена к вечару 15 красавіка.

На рэках і вадаёмах у прайшоўшыя дні працягваўся інтэнсіўны крыгалом, у выніку якога лёд «скінулі» Днепр, Бярэзіна, Сож, Прыпяць, Нёман, а таксама іх прытокі.

У сувязі з заторамі лёду на Заходняй Дзвіне і яе прытоках за прайшоўшыя дні адзначаліся імклівыя (80—192 см за суткі) пад'ёмы ўзроўняў вады. Усяго на Беларусі, па апошніх звестках, паводкай і талымі водамі ў 12 раёнах падтоплена 56 населеных пунктаў з насельніцтвам больш як тысяча чалавек. Па абласцях затоплена 66.099 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. У ліквідацыі наступстваў «вялікай вады» задзейнічана 1240 чалавек і 269 адзінак тэхнікі. Як лічаць спецыялісты, можна смела сцвярджаць, што першая «хваля» паводкі ўжо прайшла. Наперадзе яшчэ другая, але, па прагнозах, яна не павінна штосьці кардынальна змяніць.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## НУ І «ЖАРТАЧКІ» Ж У ПРЫРОДЫ...

**Калі першага красавіка ў Гродне паваліў снег, гэта яшчэ можна было «спісаць» на характэрныя для дня смеху «жартачкі». Аднак тое, што адбывалася ў мінулыя пятніцу і суботу ўжо, як кажуць, не ўлазіла ні ў якія вароты. Амаль бесперапынны снегапад на працягу двух сутак, і гэта на «экватары» вясны — такі «сюрпрыз» прыроды наўрад ці хто прыпомніць на сваім вяку.**

Тым не менш, сітуацыя з паводкай на Гродзеншчыне, паводле слоў намесніка старшыні камісіі па надзвычайных сітуацыях пры аблвыканкоме Станіслава Андрэеўскага, зусім не крытычная. Хаця без непрыемнасцей, само сабой, не абыходзіцца. У прыватнасці, у Свіслацкім раёне ў зоне падтаплення аказалася 150 чалавек, у Берастаўіцкім — 59, у Зэльвенскім — 51. Па стану на 16 красавіка ў вобласці затоплена 2811 гектараў ворыва.

У мінулую пятніцу гідролагі ўпершыню з пачатку паводкі канстатавалі спад вады ў некаторых рэках: у Свіслачы — на 40 сантыметраў, у Котры — на 19, у Росі — на 10 см. Снегапад, вядома, унёс у гэты працэс пэўныя карэктывы. Але ў цэлым, па словах С. Андрэеўскага, вельмі сур'ёзных праблем рэкі і вадаёмы пакуль не стварылі. 16 красавіка ўзровень вады ў Нёмане ў раёне абласнога цэнтра складаў 3,41 метра, у Мастах — 2,97, у Беліцы — 3,12 метра. Вада ў Шчары мела вышыню 2,06, а ў Віліі — 2,7 метра. Гэтыя паказчыкі лепшыя, чым можна было чакаць. Хаця супакойвацца, вядома, ранавата, бо яшчэ шмат снегу ў лясах і ў полі. Хочацца верыць — апошняга.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*СПОРТ-ЭКСПРЭС*

# МЕСЦЫ НА АЛІМПІЯДУ ЗАБРАНІРАВАНЫ

**Днямі ў Федэрацыі бокса Рэспублікі Беларусь прайшла прэс-канферэнцыя, прысвечаная выступленням нацыянальнай зборнай на нядаўнім чэмпіянаце Еўропы ў Даніі.**

Прэзідэнт ФБРБ, член выканкома Еўрапейскай асацыяцыі бокса (ЕАБА) Ігар Ражноўскі зазначыў, што каманда беларускіх майстроў скураной пальчаткі выступіла дастойна. Віцяблянін Сяргей Быкоўскі ў вагавай катэгорыі 63,5 кг заваяваў бронзавы медаль, які стаў адзіным для ўсёй каманды. Затое нашы баксёры змаглі заваяваць пяць ліцэнзій на Алімпійскія гульні ў Атланту. Яны на рахунку Сяргея Быкоўскага, Сяргея Дычкова (91 кг), Вадзіма Мезгі (67 кг), Сяргея Астрашапкіна (60 кг) і Сяргея Ляховіча (звыш 91 кг). Магчыма, Беларусь атрымае яшчэ адно месца на XXVI Алімпійскія гульні і яно дастанецца Сяргею Крупенічу (81 кг).

Як бы там ні было, падкрэсліў Ігар Антонавіч, а выступленне нашай каманды можна лічыць паспяховым па многіх паказчыках. Галоўны з іх — колькасць пропускаў у Атланту. У гэтым плане рэспубліку ў Еўропе абышлі толькі тры краіны. Больш за ўсё ліцэнзій заваявала Расія — 9, на адну менш — 8 — Германія і Украіна — 7.

Спадар Ражноўскі запэўніў прысутных, што кожны з пералічаных нашых баксёраў можа разлічваць на медаль у Атланце, і яны зробяць усё, каб пацвердзіць высокі ўзровень аматарскага бокса ў Беларусі. Прыкладам для іх можа служыць выступленне першага алімпійскага чэмпіёна Вячаслава Яноўскага. Дарэчы, выпадкова гэта ці не, але адзіны наш бронзавы прызёр Сяргей Быкоўскі, акрамя таго, што жыве ў Віцебску непадалёк ад Яноўскага, дык яшчэ і выступае ў той жа вагавай катэгорыі і трэніруецца неласрэдна з героем сеульскай Алімпіяды. Дык чаму ж не стаць алімпійскім чэмпіёнам-2.

Праўда, сёння ў спорце не ўсё залежыць ад спартсменаў, паколькі за кулісамі яго часта лёс пераможцы вырашаюць вялікія грошы. Не абышлося без фінансавага ўплыву і на чэмпіянаце кантынента, які праходзіў у правінцыяльным дацкім гарадку Вайль.

Дарэчы, па словах прэзідэнта ФБРБ і членаў беларускай дэлегацыі турнір быў арганізаваны на даволі нізкім узроўні. З цяжкасцю можна паставіць тры з мінусам. Разглядалася пытанне нават аб пераносе чэмпіянату ў другую еўрапейскую краіну. Але вялікую колькасць удзельнікаў (45 каманд і 320 баксёраў) немагчыма было хутка перавезці ў іншае месца, таму вырашана было ўсё ж чэмпіянат праводзіць.

Нягледзячы на тое, што судзілі яго пры дапамозе камп'ютэраў, многія вынікі аказаліся неаб'ектыўнымі. Як потым выявілася, некаторыя спартыўныя дзеячы, калі запахла барышамі, не абміналі ўвагай камп'ютэр і ўносілі туды свае «карэктывы». Як вынік, яшчэ на першых этапах з далейшага розыгрышу выбылі многія тытулаваныя баксёры. Праўда, амаль усе яны — прадстаўнікі былога Саюза. Не выпадкова, што для ўсёй Прыбалтыкі знайшлося толькі адно месца на паездку ў Атланту.

Беларусі ўдалося адстаяць сябе ў многім дзякуючы таму, што Ігар Ражноўскі з'яўляецца членам ЕАБА. Праўда, як ён прызнаўся, яму прыходзілася страхаваць хлопцаў ад несправядлівасці. І дзякуй Богу, зрабіць гэта ўдалося, і ўся Еўропа даведалася пра выдатныя традыцыі нашай краіны ў гэтым відзе спорту і адчула моц скураной пальчаткі Беларусі.

Як потым аказалася, нашу рэспубліку ведаюць не толькі па дасягненнях у спорце. Падчас турніру многія ўдзельнікі з ліку кіраўніцтва еўрапейскага бокса і некаторых краін кантынента прасілі беларускую дэлегацыю пачаставаць гарэлкай «Крышталь» і «Белая Русь» вытворчасці Мінскага ВГЗ. І попыт на яе быў настолькі вялікі, што ўсім жадаючым хапіла хіба што па кроплі.

Іншаземцы пускаліся і на хітрасці. Па прызнанню аднаго з баксёраў, пасля паядынку да яго падышоў калега з Грэцыі з бутэлькай вядомага ў свеце каньяку «Метаха» і на сваёй мове прапанаваў зрабіць «бартэр»: абмяняць каньяк на гарэлку «Крышталь». Прыйшлося пайсці грэку насустрач.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ

# ПЕРААДОЛЕЦЬ БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКУЮ МЯЖУ. У ЦЯГНІКУ

## «Усе мы рэзідэнты, панове!»

**Жалезная заслона, здаецца, даўно ўпала, і беларускія грамадзяне маюць магчымасць, атрымаўшы візы ці купіўшы турыстычныя пуцёўкі, вандраваць па свеце. Хто мае дастатковыя сродкі, зразумела. А хто не мае шмат валюты, той можа выехаць у «блізкае» замежжа — у Польшчу, якая цяпер усё больш становіцца заходняй капіталістычнай краінай, але разам з тым прываблівае нас больш нізкімі, чым у Беларусі, цэнамі, высокай якасцю тавараў, ветлівасцю і зразумелай мовай. Да таго ж у Польшчу, у адрозненне ад Літвы і Латвіі, мы можам па-ранейшаму ездзіць без віз, як і палякі да нас. Праўда, палякі, акрамя таго, без візы могуць ездзіць і амаль па ўсёй Еўропе і дзякаваць за гэта свайму ўраду... Нам жа трапіць і ў Польшчу — цэлая гісторыя: як быццам жалезная заслона ўпала, але савецкія парадкі на заходняй граніцы ўпарта захоўваюцца, а ў чымсьці становяцца і больш жорсткімі. Але пра парадкі — па парадку.**

У нечым, праўда, стала і лягчэй. З Мінска ў Варшаву можна даехаць прамым цягніком, які фарміруецца ў нашай сталіцы і адпраўляецца ў сталіцу Польшчы кожны вечар. Называецца ён чамусьці «камерцыйным» — ці то з-за цэн на білеты, ці то з-за таго, што яго аблюбавалі «чаўнакі»-камерсанты. Білет на гэты цягнік можна купіць у спецыяльнай касе на праспекце Скарыны без асаблівых цяжкасцей, нават за некалькі гадзін да адпраўлення. Акрамя білета трэба яшчэ мець запрашэнне з Польшчы, або адзнаку ў пашпарце «АВ Службовая» або турыстычны ваўчэр. Большасць купляе турыстычны ваўчэр, які каштуе 10—20 тысяч рублёў. Ваўчэр гэты як быццам гарантуе начлег у нейкай варшаўскай гасцініцы, але на самай справе ён нічога не дае, апроч права перасячэння мяжы, і служыць крыніцай даходу для турыстычных фірмаў, якія іх тыражуюць. Беларускія і польскія пагранічнікі на гэта не звяртаюць увагі, ім галоўнае — паперка. Без яе могуць і зняць з цягніка. Так ледзь не здарылася ў дзень маёй вандроўкі з двума армянамі з суседняга купэ, якія ехалі з Мінска ў Варшаву без запрашэння і ваўчэра, але ім удалося здабыць гэты ваўчэр у дзве гадзіны ночы ў Брэсце. Купілі з рук, упісалі свае прозвішчы — і ўсё ў парадку. А прадпрымальныя брэстаўчане з пачкамі праштампаваных ваўчэраў атрымалі магчымасць зарабіць.

А перад тым, адразу пасля пасадкі ў Мінску, праваднiца раздала ўсім пасажырам іншыя паперкі, якія прымусілі ўсіх пагрузіцца ў глыбокі роздум, — мытныя дэкларацыі. Дэкларацыі гэтыя выдаюцца ўжо новага ўзору — беларускія. «Каб да Брэста запоўнілі», — ці то жартам, ці то ўсур'ёз сказала праваднiца. Выявілася, што ўсур'ёз: каб разабрацца ў гэтай дэкларацыі, часу паездкі ад Мінска да Брэста можа быць і малавата. «Мытная служба Рэспублікі Беларусь жадае вам прыемнага падарожжа», — такім лозунгам пачынаецца гэтая дэкларацыя. Астатні змест дэкларацыі не надта прыемны. Ён папярэджвае, што беларускія мытнікі маюць права на «досмотр» вашага багажу і «иные операции», а лжывыя звесткі або прыхоўванне рэчаў цягне за сабой адміністрацыйную альбо нават крымінальную адказнасць. У звестках пра сябе ў дэкларацыі ўжо не трэба ўпісваць імя па бацьку (як у Еўропе!), аднак трэба напісаць назву сваёй вуліцы і нумар дома. Такая падрабязнасць вельмі выгадная рэкецірам: узяў дэкларацыю, убачыў, колькі долараў чалавек вязе, забраў іх, а каб чалавек не паскардзіўся куды трэба — перапісаў яго адрас: «Пікнеш — знойдзем цябе...»

Так што рэкеціры маюць магчымасць пакарыстацца новаўвядзеннем беларускай мытні, асабліва ў адносінах да тых нашых турыстаў, якія едуць на аўтобусах і ў аўтамабілях.

Каб запоўніць пункты 3.1 і 3.2 дэкларацыі (рэчы забароненыя альбо абмежаваныя да ўвозу ці вывазу), трэба дакладна вывучыць спіс таго, што забаронена ці абмежавана да вывазу або ўвозу. Першым пунктам у гэтым дакуменце зазначана, што «Да ўвозу ў Рэспубліку Беларусь забаронены друкаваныя і аўдыёвізуальныя матэрыялы, іншыя носьбіты інфармацыі, якія ўтрымліваюць звесткі, што могуць прынесці шкоду палітычным альбо эканамічным інтарэсам рэспублікі, яе дзяржаўнай бяспецы, ахове здароўя і маральнасці грамадзян». Наконт маральнасці зразумела — нельга везці парнаграфію, наконт друкаваных матэрыялаў, што могуць прынесці палітычную шкоду, — таксама, бо гэта забаранялася і ў часы СССР, калі супраць савецкай улады вялася падрыўная работа; відаць, і супраць суверэнітэту Беларусі нехта змагаецца шляхам інфармацыйных матэрыялаў... Але ніяк я не змог зразумець, якія носьбіты інфармацыі могуць шкодзіць эканамічным інтарэсам рэспублікі? Хіба што рэклама польскіх сасісак, з-за якіх псуюцца няякасныя і дарагія айчынныя сасіскі... Акрамя таго, да ўвозу ў Рэспубліку Беларусь абмежаваны лекавыя сродкі, каляровая капіравальная тэхніка, радыёэлектронныя сродкі з радыёвыпраменьваннем — гэта таксама, здаецца, рэлікты часоў, калі ў міліцыі рэгістравалася кожная пішучая машынка. Нейкая шпіёнафобія ці што?

Гэтае меркаванне яшчэ больш падмацоўваецца, калі запаўняеш пункты 3.6—3.9, дзе размова ідзе пра выязджаючых або ўязджаючых рэзідэнтаў і нерэзідэнтаў... У нашым купэ доўга спрачаліся, што значыць «рэзідэнт», прычым ніхто не дапускаў, што менавіта ён можа быць гэтым самым рэзідэнтам. Мроіліся нейкія згадкі пра спецслужбы, радыёперадатчыкі і г.д. Спрэчку спыніў самы вопытны з нас, «чаўночнік»: «Усе мы рэзідэнты, панове!» Праўда, знайшоўся адзін і нерэзідэнт — «русак» — грамадзянін Расійскай Федэрацыі...

Акрамя таго, у дэкларацыі можна было прачытаць спецыяльную інфармацыю для «чаўнакоў» пра тое, чаго і колькі можна бяспошлінна ўвозіць і вывозіць: алкаголю, тытуню, скураной вопраткі, галаўных убораў, крышталю, ювелірных вырабаў, ікры і інш. Цікава, што ўвоз галаўных убораў дзіцячага асартыменту (да 56 см па памеру ўключна) неабмежаваны... Карацей кажучы, над дэкларацыяй у час паездкі да Брэста мы так і прасядзелі.

У Брэсце нас (траіх «рэзідэнтаў» і аднаго «нерэзідэнта») узнялі памежнікі і пачалі пільна ўглядацца ў нашы твары і фотакарткі ў пашпартах. З гэтым як быццам было ўсё ў парадку, ды выявілася, што не ў парадку іншае: штамп «Пашпарт прыгодны для шматразовых выездаў ва ўсе краіны свету», законна пастаўлены ў Мінскім гарадскім аддзеле віз і рэгістрацый мінулым летам тэрмінам на два гады, як выявілася, ужо не сапраўдны. Усё, пагранічнік здымае пасажыра з цягніка, хоць той і даўмецца не можа, за што: паспрабуй здагадайся, што яны ўжо адмянілі адзін від штампаў і ўвялі другі. Праўда, для нас, учарашніх савецкіх людзей, гэта прывычна — нашы правы ніхто не паважае. Толькі ўмяшанне вялікага пагранічнага начальніка дазволіла пасажыру «не з тым» штампікам ехаць далей...

Потым прыйшоў мытнік. І, пакідаючы ў купэ па аднаму пасажыру, пачаў праглядваць нашы рэчы. Спачатку правяралі мяне. Мытнік папрасіў паказаць валюту, потым вытрыбушыць сумку, перагартаў кнігу і блакнот. І адпусціў. Гэтак жа праверыў і другога пасажыра. А вось калі мытнік зачыніўся ў нашым купэ з трэцім, «нерэзідэнтам», грамадзянінам Расіі, праверка цягнулася надзіва доўга, так што мы паспелі змерзнуць, стоячы ў калідоры. Можа праз паўгадзіны мытнік паклікаў мяне і яшчэ аднаго мужчыну да сябе. Як толькі зачыніліся дзверы, ён нам заявіў: так, будзеце панятымі. «А вы, Віктар Іванавіч, — звярнуўся ён да «нерэзідэнта», прылюдна прызнайцеся, дзе вы хаваеце валюту, прызнайцеся самі, бо павядзём вас распранаць і прамываць страўнік...» «Ну не, не хачу я ўдзельнічаць у экзекуцыях», — запярэчыў адзін з панятых... А Віктар Іванавіч маўчаў. Мытнік быў настойлівы і ў рэшце рэшт «зламаў» яго... «Добра, дастану, але хай толькі яны выйдуць, няёмка... У трусах валюта». «Выйдзіце», — папрасіў нас мытнік, і праз тры хвіліны запрасіў назад. У гэты момант ён ужо трымаў у руках два скруткі з доларамі і маркамі. Разрэзаўшы ніткі лязом, мытнік налічыў 3000 долараў і 5000 нямецкіх марак. Вочы ў яго свяціліся, як у рыбака, што здабыў багаты ўлоў, у голасе чулася хваляванне. «А цяпер апранайцеся ўсе — пойдзем складаць пратаколы». «Ім за што ж?» — кіўнуў на «панятых» Віктар Іванавіч. Мытнік згадзіўся і дазволіў нам напісаць нашы тлумачэнні ў купэ... А Віктара Іванавіча з цягніка знялі.

— Во, дурань, русак гэты, — глыбакадумна заявіў сусед па купэ, — не мог купіць дазвол на вываз валюты, у Маскве яны ў любым банку за дваццаць баксаў прадаюцца...

— У багатых свае праблемы, — адказала на гэта наша суседка.

Потым мы абмеркавалі, як гэта мытніку ўдалося так лёгка раскусіць «русака», і сышліся на тым, што мытнікі ўжо ведаюць, што расійскія грамадзяне могуць везці грошы кантрабандай, а падругое, яны ўжо валодаюць навыкамі псіхолагаў і, што называецца, па вачах могуць вызначыць, ці вязе пасажыр штосьці забароненае...

Пакуль мы гэта абмяркоўвалі, цягнік наш загналі ў нейкія ангары, вагоны парасчэплівалі і пачалі працэдуру замены колаў — з шырокіх нашых на вузкія, еўрапейскага стандарту. Грукату было шмат, так што мы не аднойчы ўспомнілі нядобрым словам тых, хто прыдумаў зрабіць у нас шырокую каляіну... Па вагоне забегалі ў брудной спецвопратцы рабочыя, некаторыя з іх хадзілі, што называецца «на аўтапілоце» — п'яненькія, і, перш чым пачаць адказную працэдуру замены колаў, яны прапаноўвалі пасажырам купіць у іх піва. Піва аказалася дрэнным.

Калі з грукатам вагоны зноў былі счэплены і цягнік перайшоў на польскі бок мяжы, сілы і стойкасці пераносіць усе цяжкасці і выпрабаванні пераадолення граніцы ў нас ужо не было. Але і польскія пагранічнікі і мытнікі, разумеючы, што пасля нашых нічога ўжо не знойдзеш, асабліва не дакучалі. Пагранічнік нават свае штампікі не паставіў, а мытнік спытаў: «Водка, цыгарэты, наркотыкі?» — «Че, не трэба», — адказалі мы і разам засмяяліся.

На гэтым нашы прыгоды не скончыліся, бо, недаязджаючы кіламетраў трыццаць да Варшавы, за Мінскам-Мазавецкім цягнік наш спыніўся: на пад'ездах да польскай сталіцы нешта зламалася на чыгунцы. Спазніліся мы на чатыры з паловай гадзіны. Больш за ўсіх нерваваліся «чаўнакі», якія ехалі на варшаўскі базар-стадыён. Ніхто нам нічога не мог патлумачыць: чаму спыніліся, ці надоўга? Па радыё гучалі толькі заліхвацкія песні групы «Любэ»: «Не валяй дурака, Америка!» Хаця Амерыка тут ні пры чым...

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**



НАВІНЫ З ЭСТОНІІ

## ТАРЫФЫ НАШЫ — ГРОШЫ ВАШЫ!

Акцыянернае таварыства «Ээсці тэлефон» зноў аб'явіла аб павышэнні тарыфаў на тэлефонныя перагаворы. Яно ўжо адбылося з першага сакавіка гэтага года. Цяжкі лёс манапаліста! Не маючы канкурэнтаў, цяжка ўстрымацца ад жадання яшчэ крыху разбагацець. Зрэшты, як заўсёды бывае ў такіх выпадках, у гаспадароў тэлефоннай сеткі знайшлося мноства прычын. Калі іх звязаць у адну фразу, то гучаць гэта будзе так: «Цэны павышаны ўжо амаль усюды, адны мы змагаліся да апошняга, але вось не ўстаялі пад цяжкімі ўдарамі неабходнасці».

У пазамінулым годзе пенсіянеры пікетавалі штаб-кватэру «Ээсці тэлефон». Яны патрабавалі льгот і скардзіліся на празмерна высокія расцэнкі. На працягу 1995 г. тэлефоншчыкі, відаць, знаходзіліся пад уражаннем гэтай падзеі і стараліся не нерваваць публіку. Цяпер прабіў іх час. Падаражэлі электраэнергія, цяпло, прадукты харчавання, адзенне, і настала чарга паслуг. Калі раней за хвіліну размовы па тэлефоне мы плацілі 12 цэнтаў, то цяпер аддаём 18.

**А. ДЗЕЕЎ.**



ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ВЫБІРАЦЬ ПАВІНЕН НАРОД

Лідэр чачэнскіх сепаратыстаў Джахар Дудаеў у тэлефонным інтэрв'ю Інтэрфаксу выказаўся за мірныя перамовы з Масквой праз пасрэднікаў. Аднак пасрэдніцкія паслугі ён мае намер прапанаваць трэцяму боку, напрыклад, прэзідэнту Турцыі. Пры гэтым Дудаеў не выключае, што да гэтага працэсу маглі б далучыцца прэзідэнты Татарыі і Казахстана. Галоўнай умовай пачатку мірных перагавораў Дудаеў назваў вывад войскаў з тэрыторыі Чачні. Затым, паводле слоў чачэнскага лідэра, неабходна правесці рэферэндум, на якім сам народ павінен выказацца, дзе ён хоча жыць: у незалежнай Чачэнскай Рэспубліцы альбо ў саставе Расіі.

### ЧАС ДЛЯ МІРНЫХ ПЕРАМОЎ ЯШЧЭ НЕ НАСТАЎ?

Ізраільскія верталёты ўчора раніцай абстралялі палесцінскія лагеры ў Паўднёвым Ліване. Паводле паведамленняў ліванскай паліцыі, трое палесцінцаў атрымалі раненні. Тры верталёты выпусцілі 6 ракет па будынку, у якім размяшчаўся офіс радыкальнай палітычнай групоўкі «Брыгада 13 верасня». Ноччу ізраільцяне абстралялі дзесяткі вёсак у Паўднёвым Ліване. Міжнародная супольнасць працягвае спробы спыніць процістаянне паміж Ізраілем і баевікамі групоўкі «Хэзбалах», аднак прэм'ер-міністр Ізраіля настойвае на тым, каб «Хэзбалах» першай спыніла ракетныя абстрэлы. Савет Бяспекі ААН абмяркуе крызіс у рэгіёне на сваім бліжэйшым пасяджэнні. Перэс лічыць, што яшчэ не настаў час для мірных перамоў з «Хэзбалахам».

### ЛЁС ТЫСЯЧ ЛЮДЗЕЙ ЗАСТАЕЦЦА НЕВЯДОМЫМ

Да гэтага часу застаецца невядомым лёс тысяч людзей, якія па-ранейшаму ўтрымліваюцца ў галоўных вайсковых казармах у сталіцы Ліберыі Манровіі. Карэспандэнт Бі-бі-сі перадае з месца падзей, што ўмовы ўтрымання людзей кепскія — няма пітной вады, прадуктаў харчавання. Існуе пагроза ўзнікнення эпідэміі халеры. Паводле сведчанняў, у казармах штодзень памірае каля 10 чалавек. Баевікі апазіцыі, якую ўзначальвае Рузвельт Джонсан, утрымліваюць казармы ўжо больш за тыдзень.

### КАДАФІ ДАЗВОЛІЎ ПРАВЕСЦІ ІНСПЕКЦЫЮ ХІМІЧНЫХ ЗАВОДАЎ

Лівійскі лідэр палкоўнік Кадафі паведаміў пра сваё рашэнне дазволіць правесці міжнародную інспекцыю хімічных заводаў на ўскраінах Трыпалі. Як лічаць амерыканцы, там вядзецца рэканструкцыя вытворчасці хімічнай зброі. Кадафі зазначыў, што нарэшце амерыканцы ўпэўняцца ў адваротным, але ён не сказаў, што менавіта там будзе знаходзіцца пасля рамонту. Дазвол на інспекцыю Кадафі выказаў у сваёй прапанове, прысвечанай 10-годдзю бамбардзіроўкі Трыпалі.

### АБВЕШЧАНА ПАЛЯВАННЕ НА... ПАЦУКОЎ

Год Пацука па кітайскаму летазлічэнню аказаўся нешчаслівым для грызуноў аднаго з гарадоў на поўначы КНР, дзе чыноўнікі назначылі ўзнагароду за іх знішчэнне. «Бацькі» горада абвясцілі, што будуць выплачваць па 1 юаню (12 цэнтаў) за кожнага забітага пацука або мыш. У гэтым годзе на 17 працэнтаў павялічылася колькасць інфекцыйных захворванняў, пераносчыкамі якіх з'яўляюцца мышы і пацукі. Каб атрымаць узнагароду, самога грызуна прыносіць не трэба, дастаткова прад'явіць яго хвост.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і Радыё 101,2 слухаў Сяргей ПРОТАС.**

ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

«Загадкавыя самазабойствы» (як, прынамсі, прынята лічыць) кітоў, што выкідваюцца на водмелі ў розных частках свету, застаюцца адным з неразгаданых феноменаў. Апошняе такое паведамленне прыйшло з Даніі, дзе раней нічога падобнага не здаралася. 16 гіганцкіх жывёлін па 12—13 метраў у даўжыню і вагой каля 25 тон кожная загінулі на мелкаводдзі заходняга ўзбярэжжа Ютландскага паўвострава ў раёне Рэме.

**ІТАР-ТАСС.**

*Паводле даных кансалтынгавай фірмы «Рычард Эліс Інтэрнэшнл», з 20 самых дарагіх гарадоў свету па арэндзе памяшканняў пад офісы 11 знаходзяцца ў Азіі. Першынство ў гэтым спісе ўтрымлівае індыйскі мегаполіс Мумбай, да нядаўняга часу — Бамбей. У 1995 годзе адзін квадратны метр камерцыйнай плошчы ў гэтым буйнейшым дзелавым цэнтры Індыі каштаваў 1799 амерыканскіх долараў. Другую пазіцыю займае японская сталіца Токіо — 1048 долараў. На трэцім месцы — Ганконг.*

**«Труд».**

Беспрэцэдэнтны спосаб уцёкаў з пермскай калоніі прыдумаў «дамушнік» Рыгор Памелаў. Ён па-майстэрску інсцэніраваў усю клінічную карціну вострага апендыцыту, пасля чаго быў тэрмінова дастаўлены ў бальніцу, дзе яму была зроблена аперацыя. Аднак хірургі знайшлі апендыкс Памелава цалкам жыццяздольным і наклалі швы. Першы дзень на аперацыйным ложку аказаўся апошнім. Пасля таго, як «дамушнік» адышоў ад наркозу, ён уцёк на волю. Цяпер яго шукае міліцыя. Галоўная прымета — свежае аперацыйнае шво.

**«Труд»**




**Выпуск № 333**

**Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ**

# ДРЭВЫ ПРОСЯЦЬ АЗОТУ

Пачатак вегетацыі дрэў — якраз той перыяд, калі можна і трэба ўносіць угнаенні. Доўгая зіма выцягнула з прыствольных кругоў многа карыснага. Найбольшыя страты ў азотнай групе. Гэта і зразумела, бо ўсе формы азоту вельмі рухавыя, лёгка разбураюцца і выносяцца ў паветра ці знікаюць у ніжніх гарызонтах глебы. Фосфар і калій менш рухавыя. Яны моцна ўтрымліваюцца глебай.

Таму найперш наспела неабходнасць папоўніць запасы азоту. Яго раскідваюць па паверхні (салетру) ці закопваюць пад лапату (плуг) на глыбіню да 25—30 см. На паверхні салетра губляе няшмат. З гэтай нагоды ў калгасах і саўгасах ёю падкормліваюць азімыя і травы. А вось карбамід (мачавіна) ці, скажам, сульфат амонію на паверхні будуць аддаваць у паветра вельмі шмат свайго «залатога запасу». Іх абавязкова закопваць.

Кінем позірк на прыствольныя кругі. Асноўная маса каранёў-працаўнікоў якраз па перыферыі кроны ці на 1—2,5 метра за яе межамі. Глыбіня іх залягання — ад 30 см да 1 метра. Вось сюды і трэба даць наша харчаванне. Абавязкова пад лапату ці плуг. Норма — паўтары шклянкі на дрэва ў 15 гадоў і дзве-тры шклянкі — пад больш сталае. Асабліва карыснымі будуць азотныя ў год добрага ўраджаю. Можна па акружнасці рабіць глыбокія канаўкі (да 30 см) і ў іх сыпаць азотныя. Абавязкова закрываць зямлёю.

Яшчэ раз кормім азотам пасля ападання так званай лішняй завязі. Гэта бывае бліжэй да другой паловы чэрвеня.

Сяляне маюць гной — самы цудоўны з усіх элементаў сілкавання. Яго нельга проста раскідваць пад дрэвамі. Абавязкова закрываць пад лапату ці плуг. А норма тут такая — вядро на 1 кв. метр, добра разбіць. І не сушыць, а адразу ж закрыць пластом зямлі. Калі гэтага не зробім, то да «адрасата» — каранёў дойдзе невялікая доза ўгнаенняў. Больш «вынесе» паветра, забруджваючы наваколле. Асабліва значныя страты азоту — як самага каштоўнага, самага нетрывалага элемента, якім багаты гной.

Можна зрабіць яшчэ і такім чынам. Па перыферыі кроны выкапаць канаўкі на штык лапаты. Заліць настоены каравяк, птушыны ці конскі памёт. Прапорцыі гною і вады такія: 1:8, 1:12, 1:10. Пасыпаць салетры — лыжку з верхам на пагонны метр. Калі ўсё схаваецца ў глебе, канаўкі закрыць. Гной акажацца бы ў добрым банку, дзе не толькі захаваецца, але і прынясе прыбытак у выглядзе большага і якаснага ўраджаю.

Шмат у якіх раёнах рэспублікі садаводы звычайным ломам ці калом прабіваюць зямлю і засыпаюць порцыі мінеральных угнаенняў — азотных, фосфарных, калійных, попелу. Мера вельмі дзейсная. Толькі трэба памятаць, што «хімія» можа трапіць на карані і абпаліць іх. Таму дозы тукаў невялікія — жменя на ямку, і самі адтуліны рабіць не вельмі глыбокімі — да 40 см.

Апошнім часам дачнікі сталі рабіць так званую кропельную падкормку. Над ямкай з-пад лома яны ставяць бочку з разведзеным гноем. Унізе ёсць невялікая адтуліна (якраз над ямкай). Праз дзірачку кроплі падаюць уніз, дасягаючы самых глыбокіх каранёў. За ноч, напрыклад, можа выліцца дзесяць ці больш літраў.

# БУДЗЕМ З РАСАДАЙ

Дзе купім расаду памідораў і перцаў сёлета? У мінулыя гады ў Мінску і вакол яго цяплічныя гаспадаркі вырошчвалі расаду не толькі для сваіх патрэб, але і на продаж насельніцтву. Кажуць, сёлетняй вясной будуць праблемы, таму што многія цяпліцы не абаграваліся.

Што датычыць цяплічнай гаспадаркі БелНДІ меліярацыі і лугаводства (Багдановіча, 153), то тут упэўнены: расады будзе шмат.

Цікавая канструкцыя самой цяпліцы. Яна складаецца з чатырох крылаў-секцый, і кожнай хапае сонца: за дзень яны награваюцца да 30 градусаў і вышэй. Ацяпленне адключылі з 1 сакавіка, але сагравала сонейка, і перцы, перасаджаныя ў гаршчочкі, адчуваюць сябе выдатна. Толькі ўправіліся з перцамі, як надышоў час пікіраваць памідоры. Галандскія сарты «гамаюн», «тарціла», «ісідра», «каліпса», айчынныя «агароднік» і «васіліса» прызначаны для вырошчвання ў плёначных цяпліцах, добра паказалі сябе летась, такая ж расада будзе і гэтай вясной.

Варта пераняць і вопыт жанчын, шчырых працаўніц, гэтай цяплічнай гаспадаркі. Таматы вырошчваюць у адно сцябло, шпагат нацягваюць зверху і да яго падвязваюць кожны куст асобна. Усе пасынкі і ніжнія лісты знімаюць.

Акрамя расады агароднінных культур, вырашчана вялікая колькасць аксамітак, герані, сальвіі, маленькіх вяргіняў і іншых прыгожых кветак, у тым ліку для аздобы могілак на Радаўніцу.

**Зінаіда МАЛАШЭВІЧ.**

# ПАСЯБРУЙ З ГАРОХАМ — СТАНЕШ ВОЛАТАМ

Бабовыя культуры здаўна прыцягвалі ўвагу дачніка. Гэта ж цэлая кладоўка вельмі карысных рэчываў. Тут і фосфар, і калій, і кальцый, і мноства мікраэлементаў. А на каранях (у так званых нарастах-гарошынах) — запасы азоту.

Вучоныя вызначылі, што адзін гектар гэтай культуры назапашвае ў глебе амаль 40 тон гною. Гэта значыць — фосфару, калію, мікраэлементаў, і вядома ж, галоўнага прадукту ўрадлівасці — азоту. З соткі ўсяго будзе 4 тысячы кг. Добрая машына гною! Пасля збору ўраджаю зялёную частку скасіць, здрабніць (гэта больш мэтазгодна), закапаць у зямлю. Месца, дзе былі карані гароху, не кратаць да вясны. Ці глыбока пераараць.

Пасля смела садзіць-сеяць любыя культуры. Гарох, а яшчэ фасоля, боб, віка, лубін — выдатныя папярэднікі для абсалютнай большасці агароднінных культур.

Недзе пад дрэвамі дружна будуць набіраць моцы раннія пасевы лубіну. Летам зялёную масу скасіць і пакінуць на прыствольных кругах. Восенню пасля збору ўраджаю ўсё пераараць. Вось вам і дзейснае арганічнае рэчыва ў якасці ўгнаення!

Але вернемся да гароху — аб ім сёння гаворка. Якраз наступаюць дні, калі яго смела можна класці ў глебу. Гэта культура не баіцца веснавых замаразкаў, вельмі хуткая на аддачу ўраджаю. Калі не ў зацені. Найбольш любіць фосфар (і многа фосфару!), калій, кальцый і мікраэлементы. Усё гэта ёсць у попеле, перапрэлым гноі, комплексных туках. Разлікі такія. На квадратны метр унесці вядро перапрэлага гною, шклянку попелу ці столькі ж комплекснага ўгнаення, абавязкова дадаць дзве лыжкі фосфару. Загарнуць усё на глыбыню да 15—20 см (якраз там большасць каранёў). Класці прарослыя гарошыны на глыбіню да 3—5 см. Мульчыраваць чарназёмам ці выветраным торфам. У спёку даволі часта паліваць. Калі будзе цвісці і налівацца, падкарміць каравяком (1:8). Адзін раз прапалоць, паставіць апоры. Вось і ўсё. А збіраць будзе што — гарох вельмі ўраджайны.

І адразу рэцэпт для доўгага зімовага спажывання — так званы зялёны гарошак у слоіках. Паглядзіце, якія на яго цэны! А атрымаць сваю прадукцыю вышэйшага гатунку зусім няцяжка.

Найперш выдаляем гарошыны з пругкіх стручкоў. Бракуем сапсаваныя — вялыя, хворыя, са слядамі шкоднікаў. Наступная аперацыя — мыццё. Зялёныя асобіны ў густым кошыку апускаем у ваду напалову і рукамі перамешваем. Можна насыпаць у міску ці эмаліраванае вядро і таксама мяшаць рукамі ці лапатачкай. Задача гэтай простай аперацыі — выдаліць з паверхні непажаданыя кампаненты. Мыюць нейкія 3—5 хвілін. Заўважым: мыем, а не жмакаем, як бялізну.

Чыстыя гарошыны класці ў чыгунок, вядро ці кацёл, дзе абавязкова гатаваная вада (яна «пускае бурбалкі»). Трымаць зноў да пяці хвілін. Пасля выняць і падсушыць на печы ці ў лазні (да гадзіны). Апошняя аперацыя — палажыць прадукцыю ў слоікі, заліць кіпнем, закатаць, стэрылізаваць да 15—30 хвілін. Гэта старадаўні рэцэпт кансервавання.

**Звяртаемся да нашых чытачоў з просьбай дасылаць свае рэцэпты. Абавязкова іх надрукуем.**

# З ПЕСНЯЙ ЖЫВЕ НАРОД



**«У песні жыве душа народа» — гэты мудры выраз вельмі актуальны зараз, калі ўсё менш беларускіх песень гучыць па радыё, тэлебачанні, калі беларусы ніяк не адчуюць сябе паўнавартасным народам, з самабытнай культурай, гісторыяй.**

І таму ініцыятыва Гарадоцкага РК прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі, раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны — правесці агляд беларускай песні пад дэвізам «З песняй жыве народ!» знайшла падтрымку ў педагогаў раёна.

14 педагагічных калектываў прынялі ўдзел у аглядзе беларускай песні. Гэта было сапраўднае свята, бо ў настаўніцкім асяроддзі даўно ўжо не было столькі ўсмешак, бадзёрасці, энергіі, як падчас канцэрта. Кожны калектыў прадставіў абрадавыя, народныя, сучасныя песні.

**Л. ГАРАВЫ.**

*36,6°*

# НАПОЙ СТРАСЦІ

**Існуе мноства рэцэптаў узбуджальных напояў, якія павышаюць мужчынскую патэнцыю і робяць жанчыну надзвычай страснай. З некаторымі рэцэптамі кактэйляў багіні кахання Афрадыты вас знаёміць экстрасенс і патомная лякарка Эльвіра Самафалава.**

***Напой «Сексуальны»***. Састаў: 2 ст. лыжкі каньяку, 1 чайная лыжка сухога лісця маліны, 1 чайная лыжка сухіх кветак наготкаў, 1 чайная лыжка сухога лісця шыпшыны, кмен на кончыку нажа.

У кіпень (3 шклянкі) дадаюць гэтую сумесь сухіх зёлак, даводзяць да кіпення і адразу ж здымаюць з агню, настойваюць 20—25 хвілін. Адвар зліваюць, дадаюць каньяк. Гушчу, якая засталася пасля злівання адвару, распаранае лісце, кветкі, кмен прапускаюць праз мясарубку, змешваюць з роўнай колькасцю мёду і падаюць да гарбаты замест варэння.

***Напой «Страсны пацалунак».*** Састаў: 1 чайная лыжка сухога лісця бруснічніку, 1 чайная лыжка сухога лісця шыпшыны, 1 чайная лыжка нацёртых буракоў, 1 чайная лыжка сухога лісця шалфею, 1 грэцкі арэх, 1 ст. лыжка сухіх чарніц, 1 чайная лыжка сухой крапівы, 1 чайная лыжка мёду.

Грэцкі арэх ачышчаюць і ядро дробна сякуць, змешваюць з усімі кампанентамі, акрамя мёду, заліваюць 5 шклянкамі гарачай вады, даводзяць да кіпення і адразу ж здымаюць з агню. Настойваюць 10—15 хвілін. Адвар зліваюць, а набраклыя кампаненты напою прапускаюць праз мясарубку. Атрымліваецца джэм да гарбаты, які трэба зусім трошкі падсаладзіць.

Напой прыпраўляюць мёдам і частуюць мужчыну ў час падрыхтоўкі да ночы кахання. П'юць яго цёплым, смакуючы.

***Напой «Сюрпрыз для палюбоўніцы»***. Састаў: 1 сярэдняй велічыні яблык, 10 сярэдняй велічыні свежых чарэшань, 1 чайная лыжка цёртай сырой ігрушы, 1 грэцкі арэх, 1 чайная лыжка дробна пасечаных галінак ядлоўцу, 3 сталовыя лыжкі гарэлкі.

Яблыкі, ігрушы, ядловец здрабняюць, дадаюць чарэшню без костачак, пасечаны арэх і заліваюць трыма шклянкамі гарачай вады, хутка даводзяць да кіпення, адразу ж здымаюць з агню і настойваюць 10—15 хвілін. Адвар зліваюць, дадаюць гарэлку.

Напой гатуе мужчына, а п'юць яго абодва партнёры перад ноччу кахання.

***Напой для самавітага мужчыны***. Састаў: 3 ст. лыжкі каньяку, 1 ст. лыжка сухой крапівы, 1 ст. лыжка нацёртай морквы, 1 яблык, 1 чайная лыжка нацёртага хрэну, 1/2 чайнай лыжкі кмену.

Нацёрты яблык і моркву змешваюць, хутка заліваюць 2 шклянкамі гарачай вады, каб яблык не пацямнеў, уводзяць дробна стоўчаную сухую крапіву, нацёрты хрэн, кмен. Сумесь, якая кіпіць, здымаюць з агню і настойваюць 10—12 хвілін. Адвар працэджваюць, змешваюць з каньяком.

***Напой для сталай жанчыны «Агонь і полымя»***. Састаў: 1 шклянка вінаграднага соку, 1/2 шклянкі чырвонага сухога віна, 1 грэцкі арэх, 1/2 чайнай лыжкі сухога святаянніку прадзіраўленага, 1 чайная лыжка сухіх жоўтых суквеццяў дзьмухаўцу, 1 чайная лыжка насення гарбуза без абалонкі, 1 чайная лыжка сухіх чарніц, 1 чайная лыжка мёду.

Усе сухія зёлкі, плады, насенне аб'ядноўваюць, здрабняюць, заліваюць 3 шклянкамі гарачай вады, дадаюць стоўчаны грэцкі арэх (ядро) і хутка даводзяць да кіпення, адразу ж здымаюць з агню і настойваюць у пасудзіне са шчыльна закрытай накрыўкай каля 20 хвілін; дадаюць цёплае віно, мёд...

**«Тайная власть».**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 17 красавіка

**Беларускае тэлебачанне**

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.50** Эканамікст. Нерухомасць. **8.00** Навіны. **8.15** Аўта-парк. **8.30** Абібок. **9.00** Тэлебачанне — школе. Гісторыя. 7-ы клас. Развіццё культуры на Беларусі ў XVII—XVIII стагоддзях. **9.30** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял. **11.20** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма. **11.35** «Зорная ростань». Тэлевізійны конкурс маладых артыстаў эстрады. **12.20** Відзьма-нявідзьма. **13.20** «Кропля вады». Дак фільм (Нарвегія). **13.40** «Карупцыя». Маст. фільм. **15.00** Навіны. **15.15** «Чорны квадрат». Дак. фільм. **16.10** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **16.35** Вяскоўцы. **17.05** «Супермаркет». Дак. фільм (Германія). **17.30** Крэда. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Без мяне...» Дак. фільм. **18.20** Тэлеанонс. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял. **20.00** «Хто гэта?» Тэлегульня. **20.10** Супергол. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** «Закон Бурка». Маст фільм (ЗША). 1-я серыя. **23.05** Каралеўскае паляванне. **23.45** «Мастак з Кунгура». Дак. фільм. **24.00** Навіны.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».



Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100634. Індэкс 63850.
Зак. № 1896.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12